

# Віншуем чытачоў са святам Вялікадня!




Рэгіянальная газета. Rh.by



тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

12+

6 красавіка 2018 года №14 (1197)

Змяненні ў раскладзе чыгуначнага руху старонка 3

Моладзь плануе расфарбаваць Вілейку старонка 2

Маладзечанец на Камчатцы есць ікру лыжкамі, вітаецца з мядзведзямі старонка 20

"Пасля турмы сістэма прымушае вярнуцца на зону" старонка 21

# У сям'і з Маладзечаншчыны забралі дзевяць дзяцей



Пра сітуацыю, што атрымала вялікі грамадскі рэзананс, – сама шматдзетная маці, камісія па справах непаўналетніх, міліцыя і дырэктар школы-інтэрната ў Радашкавічах.

На фота – шматдзетная маці Зоя К. старонка 5

Фота Аксаны ЯРАШОНАК.



ISSN 1991–7155



9 771991 715006 14

НАВІНЫ

## Нацыянальны гістарычны музей узначаліў 26-гадовы ўраджэнец Маладзечна

МАЛАДЗЕЧНА

**Дырэктарам Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь стаў культуролаг Павел Сапоцька.**



Яго прызначылі на гэту пасаду 29 сакавіка. Ён змяніў **Алега Рыжкова**, які кіраваў музеем ад 2013 года. Сам Павел Сапоцька раней узначальваў мастацкую галерэю "Універсітэт культуры".

– Гэта вельмі нечаканае і прыемнае для мяне прызначэнне, бо я люблю Нацыянальны гістарычны музей, ведаю мерапрыемствы, якія там праводзяцца, людзей, што там працуюць. У музеі сабраная багатая матэрыяльна-духоўная і гісторыка-культурная спадчына Беларусі. І наша задача максімальна папулярызаваць тое лепшае, што там ёсць. У планах – рэалізацыя культурна-асветніцкіх праектаў, фондавая дзейнасць, правядзенне навукова-практычных канферэнцый, выдавецкія праекты, умацаванне міжнародных культурных сувязяў. Накірункаў работы шмат. Калектыў добры – больш за 200 чалавек, шэсць філіялаў. Таму ў найбліжэйшы час буду з усімі знаёміцца, вывучаць патэнцыял музея, запусцім шэраг новых цікавых праектаў, – сказаў Павел Сапоцька.

Павел Сапоцька нарадзіўся 4 студзеня 1992 года ў Маладзечне. Скончыў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт культуры і мастацтваў, спецыялізуецца на менеджменце сацыяльнай і культурнай сферы. У 2014 годзе скончыў магістратуру БДУКМ і выкладае на кафедры міжкультурных камунікацый гэтага ўніверсітэта.

З'яўляецца старшынёй праўлення Мінскага абласнога аддзялення Беларускага фонду культуры, намеснікам старшыні Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі, выконвае функцыі адказнага сакратара дабрачыннага фонду "Спадчына Міхала Клеафаса Агінскага" па Маладзечне, кіруе Цэнтрам міжкультурнага дыялогу і сацыяльных ініцыятыў Рэспубліканскай канфедэрацыі прадпрымальніцтва. Сябра розных грамадскіх аб'яднанняў і арганізацый.

Паводле minsknews.by.

## Адкрыюць фотавыставу ўраджэнца Вілейкі

ВІЛЕЙКА

На працягу красавіка ў выставачнай зале імя **Нікадзіма Сілівановіча** ў Вілейцы будзе працаваць выстава фотаздымкаў "Па слядах Біблії" **Алега Штэльмана** – протаіерэя, настаяцеля храма святых апосталаў Пятра і Паўла ў літоўскім горадзе Шаўляй.

На выставе прадстаўлены больш за 60 фотаздымкаў. На іх – святыя месцы ў Іарданіі, на Кіпры і іншых астравах Грэцыі, у Ізраілі.

– Гэтыя фотаздымкі дазволяць нашым наведнікам здзейсніць завочнае падарожжа ў святыя месцы, – кажа старшы навуковы супрацоўнік музея **Вольга Коласава**.

Працы Алега Штэльмана неаднаразова выстаўляліся ў Беларусі і Літве. У Вілейцы будзе ўжо другая выстава.

Фотамастак нарадзіўся ў Вілейцы. Захапляўся музыкай, спортам, паэзіяй. Сур'ёзна заняўся фотаздымкай яшчэ ў школе. У 1991-м апынуўся ў Віленскім Свята-Духавым манастыры. Думаў, пра фотаздымкі мусіць забыць. Але кожны раз, наведваючы святыя мясціны, браў з сабой фотаапарат і здымаў.

Па-ранейшаму захапляецца музыкай і паэзіяй. Сам спявае пад гітару ўласныя песні.

Аксана ЯРАШОНАК.

## Турысцка-інфармацыйны цэнтр

АШМЯНЫ

У Ашмянах на базе мясцовага цэнтра творчасці дзяцей і моладзі адкрылі турысцка-інфармацыйны цэнтр творчасці дзяцей і моладзі.

Тут можна знайсці інфармацыю пра славутасці раёна, экскурсіі, экскурсаводаў, турыстычныя маршруты.

Аддзел інфармацыі.

# Моладзь плануе расфарбаваць горад

## У Вілейцы плануюць зладзіць праект "Будуем утульную радзіму"

ВІЛЕЙКА

**Акуратныя дамы і кватэры, яркія, па-сучаснаму размаляваныя двары, прыгожыя дзіцячыя і спартыўныя пляцоўкі.**



Андрэй (у цэнтры) з украінскімі актывістамі.

Фота забяспечанае Андрэем ЛОХАЧАМ.

Такой бачаць Вілейку арганізатары моладзевага сацыяльнага праекта "Будуем утульную радзіму". Распачаць ініцыятыву плануюць у горадзе ўжо гэтым летам.



Менеджар праекта **Андрэй Лохач** распавёў карэспандэнту "Рэгіянальнай газеты" пра тое, што будзе ўяўляць сабой праект:

– У невялікі горад з'язджаюцца валанцёры, большасць з якіх – маладыя людзі ад 18 гадоў. Удзельнічае моладзь з усёй Беларусі, а па магчымасці, некалькі чалавек з суседніх краін. Цягам двух тыдняў яны займаюцца добраўпарадкаваннем горада. Па-першае, дапамагаюць рамантаваць кватэры і дамы малазабяспечаным, шматдзетным сем'ям, сем'ям, у якіх няма аднаго з бацькоў. Па-другое, валанцёры добраўпарадкуюць месцы масавага адпачынку – дзіцячыя пляцоўкі, месцы для заняткаў спортам. І па-трэцяе, моладзь у прамым сэнсе зробіць горад больш яркім – размалёўвае вуліцы графіці і мураламі – буйнымі абстрактнымі малюнкамі на сцяне. Гэта можа быць трафарэтны малюнак, постэр і ўсё іншае, на што здольная фантазія мастака.

Такая дзейнасць немагчымая без узгаднення з мясцовымі ўладамі. Актывісты ўжо гутарылі з прадстаўнікамі вілейскага райвыканкама. Там, па словах арганізатараў, праект спадабаўся. Калі дадуць канчатковы дазвол, актывісты сустрэнуцца за круглым сталом з сацыяльнымі службамі, уладамі горада, ЖКГ. Цяпер актывісты чакаюць афіцыйнага адказу.

### Працаваць дзеля таго, каб моладзь не з'язджала з маленькіх гарадоў

– Працу ў адным горадзе мы плануем на ліпень, у другім – на жнівень, – дзеліцца Андрэй. – У Вілейцы ў ліпені святкуюць дзень горада і тут, у выканкаме, нам сказалі, што было б добра, каб наша дзейнасць прыпала менавіта на гэты час.

Па словах Андрэя, усё добраўпарадкаванне будзе рабіцца пад наглядам мастакоў і архітэктараў. Калі атрымаецца, то мясцовых, калі не, то спецыялістаў будуць прывозіць з сабой з Мінска.

На думку арганізатараў, іх дзейнасць будзе актуальнай сёння, бо ў Вілейцы ёсць праблемы, вядомыя многім невялікім гарадам. Першая праблема – наяўнасць у грамадстве сацыяльна незабяспечанай альбо малазабяспечанай часткі, якая жыве ў дрэнных умовах і атрымлівае невялікія заробкі. Людзі не могуць палепшыць свае ўмовы жыцця. Наступствам можа стаць павелічэнне сацыяльнай напружанасці і падзенне агульнага ўзроўню жыцця, і як вынік, адток моладзі за мяжу.

Другая праблема – малая колькасць моладзевых актывістаў, якія б стваралі ініцыятывы не толькі ў сталіцы і абласных цэнтрах, але і ва ўсіх гарадах. Усё больш людзей, асабліва моладзі, імкнецца пераехаць са сваіх гарадоў і мястэчак у сталіцу на сталай аснове. Таму развіццё мясцовых супольнасцяў з'яўляецца неабходным для падтрымкі жыцця ў рэгіёнах.

### На праект натхніла Украіна

– На такі праект мы натхніліся, калі гасцявалі ва Украіне, – распавядае Андрэй. – Там у актывістаў досвед некалькі гадоў.

На тыдзень у Вілейку прыедуць каля 30 валанцёраў, на другі тыдзень – яшчэ столькі ж. Працоўны дзень маладых людзей будзе выглядаць так. Прыкладна ад сямі-васьмі гадзін раніцы і да абеду яны будуць займацца сацыяльна карыснай працай. Пасля абеду плануюць культурніцкую праграму. Гэта выязныя падарожжы, экскурсіі па горадзе, семінары, трэнінгі, лекцыі, на якія запросяць грамадскіх актывістаў з Мінска. У канцы кожнага дня – абавязковыя пасядзелкі ля вогнішча з песнямі пад гітару і размовамі пра тое, як прайшоў дзень:

– Я назіраў за ўсім гэтым працэсам ва Украіне, – прыгадвае Андрэй. – Сумесная праца і такія размовы вельмі аб'ядноўваюць людзей.

У канцы кожнага тыдня арганізатары будуць ладзіць канцэрт з удзелам музычных гуртоў. Першапачаткова планавалі толькі сталічных, а пасля даведаліся, што і ў Вілейцы ёсць цікавыя музыкі.

### Спадзяёмся, што беларус дапаможа беларусу

Як валанцёры будуць вырашаць фінансавыя праблемы?

– У красавіку мы зарэгіструемся як грамадская арганізацыя, будзем рэкламаваць сваю дзейнасць. Сёння ў нас ужо ёсць суполкі ў сацыяльных сетках, – тлумачыць Андрэй. – Як сябры грамадскай арганізацыі мы будзем плаціць унёскі. Звернемся да вілейскіх і мінскіх прадпрымальнікаў. Ужо даведаліся, што ў Слуцку можна дамовіцца з маршрутчыкамі, каб тыя, калі трэба, бясплатна падвозілі нашых валанцёраў. Магчыма, атрымаецца дамовіцца і ў Вілейцы. Многія будаўнічыя крамы могуць даць значныя зніжкі, калі даведваюцца, што матэрыялы набываюць для сацыяльнага праекта.

Хацелася б, каб менавіта беларусы дапамаглі беларусам. Калі ж гэтага не хопіць, будзем падавацца на замежныя гранты.

У бліжэйшы час зладзяць краўнфандынгавую кампанію ў інтэрнэце. Сабраныя грошы накіруюць на сацыяльна значную дзейнасць.

Праект, па словах Андрэя, доўгатэрміновы, разлічаны не менш чым на чатыры-пяць гадоў. Сёлета актывісты плануюць працаваць у Вілейцы і Слуцку. На наступны год, калі ўсё атрымаецца, можна будзе ахапіць больш гарадоў, працаваць па ўсёй рэспубліцы. Ад мая актывісты пачнуць шукаць валанцёраў. У кожным горадзе будзе мясцовы куратар – актыўны малады мясцовы жыхар. Цяпер арганізатары якраз у пошуках такіх актывістаў

Калі нехта хоча далучыцца да праекта, звяртайцеся "Укантакце" да Андрэя Лохача або **Віталя Лучыновіча**.

Аксана ЯРАШОНАК.

## УП "Мінскае аддзяленне Беларускай чыгункі" інфармуе

У сувязі з рамонтам чыгуначнага моста на перагоне Палачаны - Валожын

**11 красавіка з 6:50 да 7:50 12 красавіка**

**НЕ БУДЗЕ АЖЫЦЦЯЎЛЯЦЦА СКРАЗНЫ РУХ** цягнікоў рэгіянальных ліній эканамкласа ад станцыі Маладзечна да станцыі Ліда і назад

• Цягнікі рэгіянальных ліній эканамкласа адпраўленнем:

- ад ст. Маладзечна будуць ісці да ст. Палачаны і назад,
- ад ст. Ліда будуць ісці да ст. Валожын і назад.

• **11 красавіка АДМЯНЯЮЦЦА ЦЯГНІКІ** рэгіянальных ліній эканамкласа Маладзечна-Ліда адпраўленнем ад ст. Маладзечна ў **18:36, 20:39**, адпраўленнем ад ст. Ліда ў **08:40. ПРЫЗНАЧАЕЦЦА ЦЯГНІК** Маладзечна - Палачаны адпраўленнем ад станцыі Маладзечна ў **20:08**

• **12 красавіка АДМЯНЯЕЦЦА ЦЯГНІК** рэгіянальных ліній эканамкласа Ліда - Маладзечна адпраўленнем ад ст. Ліда ў **04:08, НАЗНАЧАЕЦЦА ЦЯГНІК** Ліда -Валожын адпраўленнем ад станцыі Ліда ў **03:38**

• Перавозка пасажыраў паміж станцыямі Валожын і Палачаны будзе ажыццяўляцца аўтобусамі па чыгуначных білетах з прыпынкамі каля чыгуначных прыпыначных пунктаў Літва і Беразінскае, **без заезду на прыпыначны пункт Шыпулічы.**

• Расклад руху цягнікоў рэгіянальных ліній эканамкласа:

**11 красавіка**

**Ліда - Валожын**
**Палачаны - Маладзечна**

| Адпр. ад ст.Ліда | Прыб. на ст. Валожын | Адпр. ад ст.Палачаны | Прыб. на ст. Маладзечна |
|---|---|---|---|
| 07:45 | 10:00 | 11:20 | 11:50 |
| 15:48 | 17:58 | 19:05 | 19:33 |

**Маладзечна - Палачаны**
**Валожын - Ліда**

| Адпр. ад ст. Маладзечна | Прыб.на ст. Палачаны | Адпр. ад ст.Валожын | Прыб. на ст.Ліда |
|---|---|---|---|
| 08:44 | 09:11 | 10:20 | 12:25 |
| 20:08 | 20:35 | 21:40 | 23:44 |

**12 красавіка**

**Ліда - Валожын**
**Палачаны - Маладзечна**

| Адпр. ад ст.Ліда | Прыб. на ст. Валожын | Адпр. ад ст.Палачаны | Прыб. на ст. Маладзечна |
|---|---|---|---|
| 03:38 | 05:50 | 06:55 | 07:24 |

• Расклад руху аўтобусаў:

**11 красавіка**

**Валожын - Палачаны**

| Адпраўленне ад ст. Валожын | Прыбыццё на ст. Палачаны |
|---|---|
| 10:25 | 11:10 |
| 18:10 | 18:55 |

**Палачаны - Валожын**

| Адпраўленнеад ст. Палачаны | Прыбыццёна ст. Валожын |
|---|---|
| 09:25 | 10:10 |
| 20:45 | 21:30 |

**12 красавіка**

**Валожын - Палачаны**

| Адпраўленнеад ст. Валожын | Прыбыццёна ст. Палачаны |
|---|---|
| 06:00 | 06:45 |

• У сувязі з тым, што ў суткі 11.04.2018 і 12.04.2018 у расклад руху цягнікоў унесеныя значныя змяненні, інфармацыю аб раскладзе руху цягнікоў просім удакладняць: на станцыях, прыпыначных пунктах, у даведачным бюро, на сайце www.rw.by да пачатку здзяйснення паездкі.

• Звяртаем вашу ўвагу, што працягласць паездкі на працягу сутак 11 і 12 красавіка значна павялічыцца.

## Змяненні ў курсіраванні цягнікоў міжнародных і міжрэгіянальных шляхоў зносін

У сувязі з рамонтам чыгуначнага моста на ўчастку **Палачаны – Валожын** мяняецца графік руху цягнікоў міжрэгіянальных ліній

# адмяняюцца

## 11 красавіка

**№673/674, 629/630 Мінск – Гродна - Мінск**
адпраўленнем да **ст. Гродна** ў **08:10, 18:16**
адпраўленнем да **ст. Мінск** у **10:29, 18:59**

**№634 Гродна - Магілёў**
адпраўленнем да ст. **Магілёў** у **21:18**

**№746/741, 745/742**
**Ліда – Мінск – Ліда**
адпраўленнем да **ст. Мінск** у **08:32, 22:15**
адпраўленнем да **ст. Ліда** ў **16:26, 20:14**

## 12 красавіка

**№623 Віцебск - Гродна**
адпраўленнем да **ст. Гродна** ў **01:20**

**№677 Мінск - Гродна**
адпраўленнем да **ст. Гродна** ў **02:48**

Даведкі па тэл. **105, 80176-74-24-23**

УНП 600199541

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 29.03 | 5.04 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 1,9511 | 1,9668 |
| Еўра | 2,4176 | 2,4140 |
| Злоты, 10 | 5,7472 | 5,7361 |
| Расійскі рубель, 100 | 3,3895 | 3,4033 |
| Грыўня, 100 | 7,3724 | 7,4854 |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ"** | **28.03** | **4.04** |
| Еўра | 2.4050/2.4250 | 2.4000/2.4200 |
| Долар ЗША | 1.9430/1.9550 | 1.9500/1.9650 |

**ЦЭНЫ НА РЫНКУ** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 28.03 | 4.04 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 16,95 | 16,85 |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 2,98 | 2,98 |
| Сасіскі "Малочныя", 1 кг | 6,85 | 6,98 |
| Свініна (выразка), 1 кг | 9,00 | 9,00 |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,40 | 4,40 |
| Селядзец, 1 кг | 3,40 | 5,50 |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 14,80 | 12,00 |
| Карп "Элітны" | 4,50 | 4,50 |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,50 | 1,50 |
| Рыс, 0,8 кг | 1,45 | 1,80 |
| Алей "Залатая семачка", 1 л | 3,00 | 3,00 |
| Кава "Nescafe", 100 г | 4,80 | 5,20 |
| Маянэз, 400 г | 2,15 | 2,15 |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 1,60 | 1,60 |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,90 | 1,90 |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,70 | 1,70 |
| Агуркі, 1 кг | 3,70 | 3,80 |
| Баклажаны, 1 кг | 5,70 | 5,50 |
| Бульба, 1 кг | 0,70 | 0,75 |
| Буракі, 1 кг | 0,70 | 0,70 |
| Капуста, 1 кг | 0,65 | 0,68 |
| Капуста пекінская, 1 кг | 2,20 | 2,20 |
| Морква, 1 кг | 0,79 | 0,79 |
| Памідоры, 1 кг | 3,79 | 3,40 |
| Перац, 1 кг | 5,99 | 5,50 |
| Радыс, 1 кг | 1,80 | 1,80 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,79 | 0,79 |
| Часнок, 1 кг | 5,50 | 5,50 |
| Шампіньёны, 1 кг | 5,50 | 5,49 |
| Апельсіны, 1 кг | 2,95 | 3,30 |
| Бананы, 1 кг | 3,49 | 3,69 |
| Вінаград, 1 кг | 6,50 | 6,90 |
| Гранаты, 1 кг | 5,20 | 5,50 |
| Грушы, 1 кг | 3,69 | 3,50 |
| Грэйпфруты, 1 кг | 2,80 | 2,80 |
| Ківі, 1 кг | 3,95 | 3,95 |
| Лімоны, 1 кг | 3,70 | 3,59 |
| Мандарыны, 1 кг | 4,50 | 3,95 |
| Яблыкі, 1 кг | 1,99 | 1,89 |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 1,80 | 1,80 |
| Масла, 1 кг | 14,00 | 14,00 |
| Мёд, 0,5 л | - | - |
| Сала, 1 кг | 11,00 | 11,00 |
| Тварог, 1 кг | 6,00 | 6,00 |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | 3,00 |

## З-за сваркі з бацькам сябра жыхар Ракава можа сесці ў турму на 10 гадоў

**ВАЛОЖЫН**

Гэты непрыемны інцыдэнт адбыўся ў Ракаве яшчэ ў лістападзе 2017 года. І пасля шматлікіх праверак, следчых дзеянняў, заключэнняў судова-медыцынскай камісіі матэрыялы справы ў сакавіку накіраваныя ў суд.

Жывуць у Ракаве два сябры, 29-гадовыя хлопцы, часта сустракаюцца, выпіваюць.

Пасля аднаго з такіх вечароў за сынам прыехаў бацька і абвінаваціў сябра сына ў тым, што той, быццам, яго вучыць благому.

Пасварыліся, бацька з сынам селі ў машыну і паехалі. Але абураному сябру стала недастаткова лаянкі, стаў тэлефанаваць ім, каб тыя вярнуліся і разабраліся "памужчынску".

Аднак не паспелі бацька з сынам вярнуцца, як сябар дастаў біту і ўдарыў бацьку сябра па руцэ. Пералом. Сын, вядома, стаў заступацца за бацьку. Яшчэ адзін удар па руцэ. Цяпер пералом быў у сына.

У завяршэнне высвятлення адносінаў сябар бітай разбіў яшчэ машыну бацькі свайго сябра.

Супраць хлопца ўзбуджаная крымінальная справа па трэцяй частцы артыкула "Хуліганства", якая гучыць, як дзеянні, учыненыя з прымяненнем зброі, іншых прадметаў, якія выкарыстоўваюцца ў якасці зброі для прычынення цялесных пашкоджанняў, караюцца абмежаваннем волі на тэрмін да дзесяці гадоў.

Пра гэта "Рэгіянальнай газеце" расказаў старшы следчы Валожынскага РАСК **Сяргей Лапцік.**

## Жыхар Валожыншчыны прыйшоў рамантаваць падлогу, а скраў 40 літраў віна

**ВАЛОЖЫН**

Жыхарка вёскі Багданава вырашыла дома зрабіць рамонт. Спатрэбілася заліць падлогу. Дзеля гэтага знайшла майстра з вёскі Подберазь.

Пакуль мужчына займаўся рамонтам, заўважыў праз акно, як суседка выносіла з летняй кухні бутэльку гарэлкі.

У "майстра" ад выгляду ўбачанага загарэліся вочы. І стаў чакаць, пакуль надыдзе вечар.

Суседка, за якой прасачыў жыхар Подберазі, працуе прадаўцом у аўталаўцы. І, часам, суседзі ёй даюць грошы, каб тая прывозіла прадукты ім дадому. Захоўвае яна тое, што прывозіць, на летняй кухні ў двары дома.

З надыходам ночы мужчына пранік у летнюю кухню. І яго позірк спыніўся не на магазінных прадуктах, а на дзвюх 20-літровых бутлях з дамашнім віном і свойскіх кілбасах. Гэты скарб ён выкраў.

Мужчына гуляў тры дні, пакуль суседка не ўбачыла, што яе дабро знікла.

Мужчыну затрымалі.



## Жыхар Ракава піў за грошы сяброў, не ведаючы пра тое, што грошы – ад скрадзеных рэчаў

Крымінальную справу ўзбудзілі супраць трох сяброў з Ракава па артыкуле "Крадзеж".

Трое мужчын 28, 32 і 39 гадоў, раней неаднаразова судзімыя, даўно сябруюць паміж сабой, разам выпіваюць. І сябруюць яшчэ з адным жыхаром Ракава, у якога ёсць дом, дзе можна накрыць стол, пасядзець і застацца пераначаваць.

У гаспадара ёсць брат, які жыве ў Мінску, а ў гаражы дома ў Ракаве захоўвае інструменты.

У адзін з вечароў трое гасцей заседзеліся ў сябра, грошы і выпіўка скончыліся, а разыходзіцца не хацелася.

Тады хлопцы пайшлі ў гараж і скралі адтуль дрыль.

Хуценька прадалі яе, а з грашыма прыйшлі да сябра працягваць застолле.

Так паўтаралася яшчэ два дні запар: на другі дзень скралі перфаратар, на трэці – электрапілу.

А калі з Мінска прыехаў гаспадар рэчаў, убачыў, што інструментаў у гаражы няма, затое ў доме мірна спяць усе ўдзельнікі справы.

Мужчына выклікаў міліцыю, "гасцям" толькі і заставалася прызнацца, што інструменты скралі яны.

Пра гэта расказаў старшы следчы Валожынскага РАСК **Сяргей Лапцік**.

**Наталля ТУР.**

# Жанчыну дэпартавалі з краіны, але нараджаць яна ўсё адно вярнулася

**ВАЛОЖЫН**

**У вёсцы Чэхаўшчына жыве сям'я, якая некалькі год таму прыехала з Расіі, з горада Камсамольска. Здавалася б, чаму маці, дачцэ і сыну не жыць спакойна, маючы від на жыхарства, але не ўсё проста.**


Фота islam.in.ua.

**Цяжарная жанчына тры месяцы жыла на вакзале.**

Старшы следчы Валожынскага РАСК **Сяргей Лапцік** расказаў, што да гэтага выпадку сына тройчы дэпартавалі з Беларусі. Але цяпер гаворка пойдзе пра 30-гадовую дачку.

А за некалькі дробных учынкаў, якія жанчына здзейсніла п'янай, было прынята рашэнне дэпартаваць і яе з краіны.

Каб упэўніцца ў тым, што дачка ўладкуе сваё жыццё ў Расіі, маці паехала з дачкой да Масквы.

Там, на Беларускім вакзале, яны пазнаёміліся з яшчэ адной жанчынай, якая выклікалася дапамагчы ўладкаваць 30-гадовую жанчыну на працу ў Смаленску.

На гэтым маці з дачкой развіталіся.

Прыехаўшы ў Смаленск, новая знаёмая папрасіла пачакаць яе тут, на вакзале. Вядома, што больш тая не вярнулася.

Жанчына, якую дэпартавалі з Валожына, засталася жыць на вакзале.

Так прайшлі тры месяцы – ад верасня да снежня. А ў снежні жанчына спахапілася, што ёй хутка нараджаць. На момант дэпартацыі яна ўжо была цяжарная.

Жанчына патэлефанавала маці і папрасіла забраць яе дадому. Тая прыехала, і ўдзвюх яны вярнуліся ў Чэхаўшчыну.

Калі надышоў час нараджаць, вядома, жанчына легла ў радзільню. Адтуль і паведамілі ў міліцыю, што жанчына знаходзіцца ў Беларусі.

– І як ні шкада было маладую маму, – кажа Сяргей Лапцік, – але па законе мы вымушаны былі ўзбудзіць крымінальную справу па артыкуле 371, частка 2.

Мараль гісторы простая: калі вы замежны грамадзянін, не парушайце беларускія законы і ніхто вам не будзе перашкаджаць гадаваць дзяцей у Беларусі.

**Наталля ТУР.**

## Мінчанін асуджаны на 15 гадоў за забойства школьніцы ў Вязынцы і здзек з трупа

**МАЛАДЗЕЧНА**

**Суд Маладзечанскага раёна вынес прысуд па справе аб забойстве 14-гадовай школьніцы ў вёсцы Вязынка.**

Фігурант асуджаны на 15 гадоў пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму.

Раней у спрэчках дзяржабвінаваўца прасіў пасадзіць мужчыну на 17 гадоў, суд прызначыў крыху менш – 15 гадоў.

– Абвінавачаны таксама абавязаны выплаціць кампенсацыю маральнай шкоды ў 100 тысяч рублёў маме забітай дзяўчынкі. Гэта было яе адзінае дзіця, – распавёў TUT.BY пракурор аддзела пракуратуры Мінскай вобласці **Сяргей Шаравар**.

Сам фігурант віну прызнаў. Але ад дачы паказанняў падчас расследавання, а потым і ў судзе адмовіўся.

Нагадаем, школьніца знікла ў канцы ліпеня 2017-га, яе цела знайшлі праз пару дзён недалёка ад дома. Напярэдадні дзяўчына была ў адной кампаніі з 24-гадовым мінчуком (абодва былі п'яныя), ён падахвоціўся праводзіць школьніцу. Па дарозе паўстаў канфлікт, і мужчына задушыў дзяўчынку, а потым здзекаваўся з цела (гвалту не было).

У выніку мужчыну прад'явілі абвінавачанні па ч. 1 арт. 139 (забойства), ч. 1 арт. 347 КК (здзек з трупа). За першае злачынства яму пагражала да 15 гадоў, за другое – да трох гадоў пазбаўлення волі. Гэта значыць, максімальна ў суме 18 гадоў.

Як раней тлумачылі следчыя, на целе дзяўчыны былі "множныя пашкоджанні", з-за чаго першапачаткова кваліфікавалі як забойства з асаблівай жорсткасцю (за што можа пагражаць і пакаранне смерцю).

Меркавалася, што траўмы яна атрымала пры жыцці. Але экспертызы паказалі: пашкоджанні былі нанесены ўжо пасля таго, як дзяўчына памерла ад удушэння. Таму кваліфікацыю змянілі.

**Аддзел інфармацыі.**

## Мужчына праваліўся пад лёд і патануў

**АСТРАВЕЦ**

**Пра здарэнне паведамілі ў Гродзенскай абласной арганізацыі таварыства выратавання на водах.**

Трагедыяй скончылася прагулка па тонкім лёдзе для жыхара Астраўца.

Мужчына 1980 года нараджэння вырашыў зрэзаць дарогу і перайсці праз вадаём у цэнтр горада. Лёд не вытрымаў, і мужчына апынуўся ў вадзе.

Яго заўважылі, выклікалі дапамогу, аднак выратаваць не паспелі.

"Выхад на лёд цяпер можа быць смяротна небяспечным", – адзначылі ў таварыстве выратавання на водах.

Лёд ужо сышоў нават на вялікіх вадаёмах. У прыватнасці, чыстая вада на Зэльвенскім вадасховішчы. Практычна няма лёду на возеры Белым у Гродзенскім раёне. На Юбілейным возеры каля Гродна таўшчыня лёду не перавышае 5-7 см.

У Гродзенскай вобласці дзейнічае забарона выхаду на тонкі лёд. У рэгіёне вадаёмы патрулююць супрацоўнікі таварыства, МНС і органы ўнутраных спраў. З пачатку года папярэдзілі больш за 700 чалавек, 13 чалавек у рэгіёне выратавалі.

**Аддзел інфармацыі.**

ТЭМА НУМАРА

# У сям'і з Маладзечаншчыны забралі дзевяць дзяцей

МАЛАДЗЕЧНА

**Рашэннем камісіі па справах непаўналетніх у Маладзечанскім раёне ў шматдзетнай сям'і К. забралі ўсіх дзевяць дзяцей – за тое, што бацькі збівалі іх за правіннасці.**

Працэдура адабрання праходзіла 27 сакавіка. Рэзананс гісторыя атрымала за некалькі дзён. Па парадзе сяброўкі **Людмілы Буркевіч**, шматдзетная маці, Зоя К., вырашыла распавесці пра сітуацыю "Рэгіянальнай газеце".

Калі адабралі дзяцей, Зоя выйшла на працу ў Маладзечне. Цяпер кожную раніцу яна едзе з Радашкавічаў на маршрутцы ў горад, дзе на швейным прадпрыемстве працуе канструктарам. Адсюль у 2004 годзе яна сышла ў першы дэкрэтны. Гутарым з Зояй раніцай, пакуль яшчэ не пачаўся яе працоўны дзень.

### Адразу спрабавалі выхоўваць размовамі

– У нас з мужам дзевяць дзяцей: **Вячаслаў**, **Караліна**, **Елісей**, **Злата**, **Суламіта**, **Эмануіл**, двайняты **Евангеліна** і **Лучазара** і сямімесячная **Эмілія**, – распавядае Зоя. – Да пэўнага часу праблем з паводзінамі дзяцей не было. Але апошнія пару год мы пачалі заўважаць, што старэйшыя, 14-гадовы Вячаслаў і 12-гадовая Караліна, сталі падманваць, грубіць, не слухацца. Вячаслаў стаў прагульваць музычную школу, дзе займаўся па класе кларнета.

Па словах маці, адразу ў сям'і спрабавалі выхоўваць гутаркамі. Але вынікаў не было. Тады сталі караць рамянём. Муж, Сяргей, падтрымліваў Зою: лічыў, што не варта даруваць дзецям іх правіннасці, каб у далейшым яны выраслі добрымі людзьмі.

– За што каралі дзяцей рамянём?

– Вячаслава за тое, што прагульваў школу, падманваў нас. У яго прыватнай перапісцы ў інтэрнэце знайшла нецэнзурныя словы. Апошні раз у курткі сына мы знайшлі спаленую газету. Казалі, што гульні з агнём небяспечныя. Сын груба адказаў нам: "Я так хачу". За гэта пакаралі. Дачку Караліну таксама каралі за падман, за тое, што неяк пайшла ў магазін і вельмі надоўга затрымалася.

Менавіта выпадак фізічнага пакарання 19 сакавіка стаў прычынай таго, што сям'ёй зацікавіліся сацыяльныя службы і міліцыя. Да гэтага, па словах Зоі, са школай ніякіх праблем не было: дзеці здольныя, вучыліся нядрэнна, мама нават мала дапамагала ім рабіць дамашняе заданне.

21 сакавіка на руцэ ў Вячаслава педагогі ў школе заўважылі сіняк. Па словах мамы, 19 сакавіка хлопца пакаралі за выпадак з падпаленай газетай і за грубасць, білі па мяккім месцы, але хлопчык падставіў руку. Таму сіняк атрымаўся на руцэ. Вячаслаў распавёў настаўнікам, што дома яго б'юць.

– Усюды пішуць пра тое, што магло адбыцца калектыўнае самазабойства, пра тое, што я разам з дзецьмі на Вялікдзень або ў Вербніцу абяцала сысці да Бога, – прыгадвае Зоя нядаўнія публікацыі і запісы ў дакументах камісіі па справах непаўналетніх. – Такіх размоў і блізка не было. Ведаючы Вячаслава, магу меркаваць, што ён нафантазіраваў. Хлопчык быў здольны да гэтага.

### Зоя: грошай заўсёды хапала

Цяпер шэсць старэйшых дзяцей у школе-інтэрнаце ў Радашкавічах, трое малодшых – у дзіцячай бальніцы ў Маладзечне.

Пакуль бацькі не могуць наведваць дзяцей у інтэрнаце. Чакаюць дазволу аддзела адукацыі.

> **У бальніцу да малодшых дзяўчынак Зоя ходзіць. Але Эмілію грудным малаком карміць там не дазваляюць, даюць дзіцячую сумесь.**

Шматдзетная сям'я мае ў Радашкавічах дзве кватэры: чатырохпакаёвую і аднапакаёвую ў доме побач. У аднапакаёўцы цяпер жыве маці Сяргея. Свякроў, па словах Зоі, дапамагае. У кватэры заўсёды парадак, дзеці дагледжаныя.

У матэрыяльных адносінах, кажа Зоя, сям'я не мела патрэбы. Мама кожны месяц атрымлівала 1100 на траіх малодшых дзяцей. Заробак таты, што працуе на чыгунцы, каля 1000. Паўгода сям'я атрымлівала адрасную дапамогу больш за 600 рублёў кожны месяц. Як шматдзетныя, карысталіся льготамі па аплаце камунальных паслуг.



Зоя: мы з мужам хочам, каб нашы дзеці выраслі добрымі людзьмі.

Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

### Пакуль бацькі не лічаць сябе вінаватымі

Пытаюся ў Зоі, як рэагуюць на гэту сітуацыю людзі ў невялічкіх Радашкавічах, як гісторыю жанчыны ўспрынялі на працы.

– Многія кажуць, прызнайце, што вы самі вінаватыя ва ўсім, – распавядае Зоя. – А мы з мужам пакуль не лічым сябе вінаватымі. Некаторыя ўзрушаюцца, што з бацькамі-алкаголікамі столькі недагледжаных дзяцей жыве і іх не забіраюць. А ў нас, у сям'і, дзе бацькі ніколі не пілі, дзе ў кватэры заўсёды чыста, забралі дзяцей.

Пакуль са старэйшымі Зоя размаўляе па тэлефоне. Дзеці кажуць, што хацелі б дамоў. А старэйшы Вячаслаў адпраўляе эсэмэскі, у якіх піша, што любіць маму і просіць прабачэння.

За Зояй і Сяргеем цяпер асаблівы нагляд. Сочаць, каб на працы не было ніякіх праблем: прагулаў, спазненняў. Муж і жонка павінны прайсці медагляд, у тым ліку псіхолага, псіхіятра.

– Мы падпісалі паперу, што не будзем больш фізічна караць дзяцей, – кажа Зоя. – Вельмі хочацца, каб яны вярнуліся дамоў.

### Намеснік старшыні камісіі па справах непаўналетніх: у сям'і была пагроза жыццю дзяцей

Камісія па справах непаўналетніх Маладзечанскага раёна прыняла рашэнне забраць дзевяць дзяцей з сям'і К.

Па словах намесніка старшыні камісіі **Вольгі Клепаковай** рашэнне прынялі, бо была пагроза дзіцячаму здароўю і жыццю.

– Згодна з Дэкрэтам №18, дзяцей забралі на паўгода, – кажа Вольга Паўлаўна. – У гэтыя шэсць месяцаў мы будзем працаваць з сям'ёй. На працягу двух тыдняў з моманту адабрання складаецца План абароны правоў і законных інтарэсаў дзяцей, які зацвярджае старшыня райвыканкама. Калі за гэтыя шэсць месяцаў знікнуць прычыны, з-за якіх прызналі, што дзеці маюць патрэбу ў дзяржаўнай абароне, іх вернуць у біялагічную сям'ю. Калі ж прычыны застануцца, па рашэнні камісіі аддзел адукацыі, спорту і турызму будзе хадайнічаць перад судом аб пазбаўленні бацькоўскіх правоў.

План работы з сям'ёй К. пакуль у распрацоўцы. Ні да ладу жыцця сям'і, ні да жыллёвых умоў у камісіі ніякіх пытанняў няма. Акцэнт у плане, хутчэй за ўсё, зробяць на псіхалагічную дапамогу. Спецыялісты-псіхолагі папрацуюць і з дзецьмі, і з бацькамі.

Кожны месяц бацькоў будуць выклікаць на пасяджэнне камісіі па справах непаўналетніх, сачыць, як выконваюцца пункты плана.

Сёння вызначаюць парадак зносін дзяцей з бацькамі. Маме і тату дазволяць бачыць дзяцей, размаўляць з імі ў прысутнасці педагога з інтэрната.

### Афіцыйны прадстаўнік УУС Мінаблвыканкама: у дваіх старэйшых дзяцей былі сінякі

Паводле афіцыйнага каментара прадстаўніка УУС Мінаблвыканкама **Яўгена Сачака,** 22 сакавіка ў Маладзечанскі РАУС паступіла інфармацыя з Радашкавіцкай сярэдняй школы аб тым, што ў хлопчыка 2004 года нараджэння знайшлі кровападцёкі. У гэты ж дзень у школу прыбылі супрацоўнікі міліцыі. Апыталі дзіця, а таксама яго малодшых сясцёр і брата. Усіх даставілі ў Маладзечанскі міжраённы аддзел Дзяржаўнага камітэта судовых экспертыз для высвятлення паходжання траўмаў. Сінякі былі толькі ў дваіх старэйшых. Па стане на 26 сакавіка падрыхтавалі заключэнне, што ў дзяцей ёсць цялесныя пашкоджанні, якія не пацягнулі кароткачасовага расстройства здароўя. З апытання старэйшага высветлілася, што бацькі пакаралі яго за нейкую правіннасць дзягай.

### Дырэктар школы-інтэрната ў Радашкавічах: старэйшыя прывыклі, малодшыя – не

Як распавёў дырэктар Радашкавіцкай школы-інтэрната **Ігар Дзятлоўскі**, цяпер дзеці адаптуюцца ў інтэрнаце. Старэйшыя наведваюць школу. Калі трэба, педагогі дастаўляюць іх у музычную школу.

– Малодшая дзяўчына адаптуецца цяжэй. Вядома, адарвалі ад мамы, – кажа Ігар Міхайлавіч. – Да дзяцей бацькоў пусцім, калі будзе на гэта адпаведны дазвол аддзела адукацыі райвыканкама.

Па словах дырэктара, усе дзеці прыехалі ў інтэрнат дагледжаныя, чыстыя. У гэтым плане да бацькоў прэтэнзій няма.



Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
8-044-566-26-99
(працоўны)




# Куплю Прадам Зраблю

## Дзе падаць аб'яву

**МАЛАДЗЕЧНА** Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. (80176) **537804, 8 (029) 6768420.**
**АСТРАВЕЦ** вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. (801591) **21140.**
**АШМЯНЫ** вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. (801593) **75617.**
**ВАЛОЖЫН** вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. (801772) **61385.**
**ВІЛЕЙКА** вул. Партызанская, 44, магазін "Парус". Тэл. (801771) **20083, 20103.**
**ВІЛЕЙКА** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. (801771) **55233, 55539.**
**СМАРГОНЬ** вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. (801592) **33077.**
**МЯДЗЕЛ** вул. 17 Верасня, 2. Тэл. (801797) **55266, 55765.**

* *Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў Інтэрнэце на сайце* Rh.by



## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• ВАЗ-21063, 1989 г.в., бэжавы колер. Т. (8-029) 1798400.*

• Гольф-7, 2014 г., Опель-Зафіра, 2014 г., торг. Т. (8-029) 3063523.*

• Опель-Зафіра, 2007г., 1,9 дызель, цёмна-сіні. Т. (8-029) 6359630.*

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО;** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага**.** ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*

### КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-025) 9414091.***

• Аўто дорага, у любым стане, ацаню шчодра – не пашкадуеце! Т. (8-025) 5277913.*

• Аўто 0,01 – 3,5 л, 1987-2018 г.в. з любымі праблемамі, для сябе. Дорага. Т. (8-029) 9076073, (8-029) 7459021.*

• Аўто 0,01 – 4,0 л, іншамарку 1986-2018 г.в. у любым стане, можна аварыйную. Т. (8-029) 9078269, (8-033) 3495240.*

• Аўто ВАЗ, Масквіч, Волга, УАЗ, старую іншамарку і інш. у любым стане. Т. (8-029) 5261974.*

• Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 9961242.*

• Любое аўто на хаду. Грошы адразу. Т. (8-029) 2016100.*

• Каталізатар б/у. Т. (8-029) 9357762.*

### ІНШАЕ

• Антыкаразійны цэнтр DINITROL. Апрацоўка днішча, колавых арак, схаваных поласцяў. Гарантыя ад 3 да 7 гадоў. Дыягностыка кузава і кансультацыя – бясплатныя. Наяўны, безнаяўны разлік. Маладзечна, зав. Лазневы, 18 (раён школы №1). ІП Блоцкая В. М. УНП 691898138. Тэл. Вэлком 8 (029) 3239999, МТС (8-033) 3239999.*

### ПАСЛУГІ

• Міні-экскаватара, усе віды земляных работ. ІП Матусевіч Ю.І. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868, (8-0176) 778888.*

• Міні-экскаватар. Усе віды земляных работ. ІП Кроер А.Л. УНП 691397772 Т. (8-029) 6926052.*

• Паслугі экскаватара ЕВК-14 (0,9 куб.м), экскаватара-пагрузчыка Хітачы, пагрузчыка Амкадор, самазвала 20 т, трала 24 т. ІП Вабішчэвіч І.В. УНП 690696017. Т. (8-029) 3713335, (8-033) 3133535.*



## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы па вул. Савецкай, 91. 59 кв. м, 5 паверх. Т. (8-029) 3345737.*

• 2-узроўневы дом у Вілейцы, цэгла, 110 кв. м, усе камунікацыі, 11,5 соткі зямлі альбо мяняю на кватэру ў Мінску. Т. (8-01771) 56170, (8-029) 6940541.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы па вул. Чапаева, 62; 61,3 кв. м, 5 паверх, 74 000 бел. руб, торг. Т. (8-029) 5056728.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, вул. Незалежнасці. Т. (8-029) 7039162.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Замкавай, 1 паверх. Т. (8-029) 6333777.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Маладзечне, вул. В. Гасцінец, 76; 60 кв. м, кухня 6,5 кв. м, 2/5 панэльнага дома. Т. (8-033) 6602079, (8-0176) 538069.

• Гараж у ГБК Ізбіна, 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Падрабязнасці па тэлефоне (8-029) 8558089.*

• Гараж у ГК №12 Маладзечна. Т. (8-029) 5612059.*

• Дача ў в. Прынта, участак 4 соткі, побач рака, лес. Т. (8-029) 7512672.*

• Дача ў Зялёных Узгорках, 18 км ад Маладзечна. Т. (8-029) 3925149.*

• Дом драўляны жылы ў Маладзечне. Газ, водаправод. Т. (8-029) 6691789.*

• Дом драўляны ў а.г. Бабровічы Валожынскага раёна, 40 кв.м, участак 21 сотка, газавае і пячное ацяпленне, гаспадарчыя пабудовы, асфальтавая дарога, 1 км ад трасы Гродна, 3 км – Налібоцкая пушча і рака Іслач, 4 км ад Валожына. Т. Вэлком (8-029) 1349674.

• Дом жылы з гаспадарчымі пабудовамі ў в. Доўгае Вілейскага раёна. Цана дагаворная. Т. (8-029) 7005081.

• Дом з гаспадарчымі пабудовамі, падвалам, калодзежам, тэлефонам у в. Галінова Куранецкага с/с. Т. (8-033) 6627867.*

• Дом у Маладзечне, раён СШ №9, усе камунікацыі, нядорага. Т. (8-029) 3934544.*

• Дом у в. Кастыкі Касцяневіцкага с/с з мэбляй і бытавымі прыладамі, 150 м ад р. Вілія. Лазня, калодзеж, гараж. Т. (8-029) 3590794.

• Дом у в. Порса, участак 20 сотак. Т. (8-029) 1214671.*

• Дом у в. Снежкава (прыгарад Вілейкі). Т. (8-029) 2581605.*

• Дом у вёсцы Гародзькі Валожынскага раёна (станцыя Валожын). Т. (8-044) 4586051.*

• Дом у Вілейцы агульнай плошчай 150 кв. м. Усё цэнтральнае. Участак 0,06 га. Гараж, лазня, сад, альтанка.Т. (8-029) 3455880.

• Дом у Вілейцы з усімі камунікацыямі. Т. (8-029) 7039162.*

• Дом у Вілейцы па вул. Мірнай, 15. Т. (8-029) 2574576.

• Дом у Вілейцы, раён Стаўкі. Участак 12 сотак. Т. (8-029) 6621768.

• Дом, 13 км ад Смаргоні. Т. (8-029) 8724272.

• Дом. Тэрмінова. Т. Вэлком (8-029) 9537371.*

• Домік блочны з садовым участкам: ягаднікі, дрэвы, вінаград у вёсцы Ласі Маладзечанскага раёна (на кааператыў "Брыльянт"). Т. (8-033) 6407558.*

### ЗДАМ

• Дом у Маладзечне.Т. Вэлком (8-029) 9889026.*



## ПАСЛУГІ

### ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

• БУСы па 1,5 тон. Адкрыты бартавы і тэнтаваны. ПУП "Дойлід-С" УНП 600077312. Т. (8-029) 1921299.*

• Мерсэдэс-412, 3 т, 20 куб.м. Саншпарт. Без выхадных. ІП Габрыновіч А.В. УНП 691885058. Т. (8-029) 7015520.*

• Мерсэдэс-508, тэнт, да 3 тон + 5 пасажырскіх месцаў, па горадзе і РБ. Кватэрныя пераезды. Вываз смецця. Грузчыкі. ІП Шабуня С.А. УНП 691885349. Т. МТС (8-029) 8548742, Вэлком (8-044) 4784873.*

• Мерсэдэс-Спрынтар да 2 тон, 4,2 / 1,75 / 1,65, горад, РБ, РФ. ІП Навойчык А.У. УНП 692015166. Т. Вэлком (8-029) 1684717, МТС (8-029) 7684717.*

• Фура 20 тон, адкрытая бартавая. ПУП "Дойлід-С" УНП 600077311. Т. (8-029) 1921299.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• **ВЫРАБ ЯКАСНЫХ ЧАХЛОЎ** любой складанасці, пашыў аўтамабільных салонаў, тэнтаў для подак і катараў. ІП Мацко А.А. УНП 691514463. Т. Вэлком (8-029) 6932184.*

• Кладка, дах, фундамент. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826. Т. (8-0176) 734961, (8-029) 5024571.*

• Мантаж-дэмантаж дахаў, уцяпленне дамоў, афарбоўка, падшыва, абшыўка франтонаў сайдынгам і інш. ІП Бесараб А.В. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*

• Рамонт камп'ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне па вул. Б. Хмяльніцкага, 36. Наяўны і безнаяўны разлік. http://mircomputerov.by ІП Тачылаў А.Н. УНП 691290239. Т. (8-029) 5754003, (8-029) 1559223, (8-0176) 551702.*



• Рамонт камп'ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне. Дыягностыка і выезд па горадзе бясплатныя. ІП Мандрык А.А. УНП 692018244. Т. (8-033) 6659479.*

• **РАМОНТ ТЭЛЕВІЗАРАЎ ДОМА.** Гарантыя**.** ІП Зелянко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Лайф (8-025) 9262376, (8-0176) 546298.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд на дом. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• Рамонт халадзільнікаў, маразільнікаў "Атлант", "ВЕКО", "Норд" "Індэзіт". ІП Шапавал Г.В. УНП 690688393. Т. (8-029) 3395974.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВЫ.** Растэрміноўка. Скідкі. Акцыі**.** ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

• Спілуем дрэвы любой складанасці. ІП Шабуня С.А. УНП 691885349. Т. МТС (8-029) 8548742, Вэлком (8-044) 4784873.*

• Устаноўка помнікаў, уладкаванне сцяжкі, абліцоўка пліткай, добраўпарадкаванне. Растэрміноўка. ІП Казінец Р.Н. УНП 690572663. Т. (8-029) 3893298, (8-029) 5533267.

• Уцяпленне дамоў (пенапласт, вата), афарбоўка, падшыва. ІП Бесараб А.В. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*

• Электрык. Замена праводкі. ІП Ганецкі С.Р. УНП 691503598. Т. (8-029) 8543788, (8-029) 9780431.*

• Юрыдычныя паслугі для юрыдычных асоб і ІП: кансультацыі; складанне пісем, прэтэнзій, заяў у суд, выканаўчыя органы; рэарганізацыя, стварэнне юрыдычных асоб і рэгістрацыя ІП, спыненне дзейнасці ІП і ліквідацыя; распрацоўка ЛНПА; распрацоўка дагавораў. Прымальныя цэны. ІП Булава Н.В. УНП 692013929. Т. (8-033) 3313377.

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Блокі газасілікатныя, цэгла, блокі некандыцыя. ІП Арлова В.Р. УНП 590976095. Т. (8-029) 1998898, (8-033) 6989980.*

• Вагонка, вольха, сасна. Дошкі для падлогі, блок-хаўс, імітацыя бруса, палок. ІП Жукоўскі З.А. УНП 692011094. Т. (8-029) 5090095, (8-029) 3811905.*

• Вагонка, імітацыя бруса, дошкі для падлогі. ІП Кусовіч І. І. УНП 691891279. Т. (8-029) 9394025.*

• Цэгла (кірпіч) шамотная, віцебскі цэх №1. Т. (8-044) 7557072.*

## Сельгас-, будаўнічая тэхніка, абсталяванне

• Трактар Т-40, навясное, прычэп. Т. Вэлком (8-029) 1991382.*

• Трактар, 2017 г.в., рухавік 16 к.с., бензін, добры стан, 1900 руб. Т. (8-029) 5039360.*

• МТЗ-80 з малой кабінай у рабочым стане, 7000 руб. Т. МТС (8-029) 5251691.

## Бытавая тэхніка

• Халадзільнік стары б/у ў рабочым стане за сімвалічны кошт. Т. (8-029) 6971901.*

## Камп'ютары, TV, сродкі сувязі

• Абаненцкія карты "Трыкалор" – скідкі! акцыі! Антэны спадарожнікавыя – вялікі выбар, нізкія цэны. ІП Бойка Т.Л. УНП 691290609. Т. (8-044) 7170634, (8-033) 3352045.*

• Антэны спадарожнікавыя "Трыкалор", НТВ+, замена старых прыёмнікаў на новыя. ГПУП "Ліцераль". УНП 690621436. Т. (8-0176) 738353, (8-029) 3900408, (8-029) 7728320.*

## Жывёла, птушка, пчолы

• Індычаняты БІГ-6 і куранияты: бройлерныя КОББ-500, нясушкі, цацаркі. Дастаўка.Т. МТС (8-033) 6908397, Велком (8-029) 6938397.*

## Іншае

• Батарэі чыгунныя. Т. (8-029) 8789740.

• Печ ацяпляльная бытавая "буржуйка", чыгунная, разборная, 45 кг, б/у. Т. (8-033) 6407558.

• Пілавінне, гарбыль з дастаўкай. Т. (8-029) 7876438.*

## КУПЛЮ

## Бытавую тэхніку

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

## Камп'ютары, TV, сродкі сувязі

• **НОЎТБУК**, ЖК-тэлевізар, ЖК-манітор, сістэмны блок, можна на запчасткі. Т. (8-029) 5613972.*

## Жывёла, птушка, пчолы

• Кабана, свінню. Т. (8-029) 2552321.

## Іншае

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. "Беларуская Энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

• Бульбу буйную харчовую ў любой колькасці. Т. (8-029) 2637474, (8-033) 6316374.*

• Кнігу "Памяць", розныя раёны. Т. (8-044) 7982430.*

• Рогі лася, аленя. Т. (8-029)8552646.*

## АДДАМ

• Шчанят бельгійскай аўчаркі добрым людзям. Т. (8-029) 5030015.*

## ПРАЦА

## ПАТРАБУЕЦЦА

• Вадзіцель на аўто КАМАЗ з гідраманіпулятарам. Т. (8-029) 7781236.*

## ШУКАЮ РАБОТУ

• Бетонныя работы, агароджы, кладка блокаў, цэглы, спілоўванне дрэў. Т. (8-044) 7556706, (8-029) 8521268.



"Рэгіянальная газета"
шукае
**рэкламнага агента**
Заробак неабмежаваны і залежыць ад колькасці арганізаванай рэкламы. Калі вы камунікабельныя, умееце падтрымліваць гаворку, настойлівыя і адказныя, то дасылайце сваё рэзюмэ на адрас reklama@rh.by.



# Не забывайцеся дасылаць бланкі ў рэдакцыю

Пачалася апошняя вучэбная чвэрць. Менш чым два месяцы аддзяляе вас ад розыгрышу нашага галоўнага прыза. Хай красавіцкае сонейка не перашкаджае вам атрымліваць добрыя адзнакі.

Для тых, хто добра вучыцца і жадае да летніх канікулаў займець патрэбную рэч, нагадваем правілы.

Вам ёсць 12 год, вучыцеся ў школе ці гімназіі і маеце "9" ці "10" па любым з прадметаў? Тады наш конкурс "Дзясятачка" – для вас.

У акцыі могуць удзельнічаць школьнікі любой школы ці гімназіі Маладзечанскага, Вілейскага, Смаргонскага, Валожынскага, Мядзельскага, Ашмянскага, Астравецкага раёнаў.

Няхай удзельнічаюць і вашы аднакласнікі, каб вы атрымалі магчымасць зарабіць паход у піцэрыю для ўсяго класа.

Вы можаце даслаць адзнакі, зробленыя цягам усяго года, але на кожную адзнаку неабходны асобны бланк. Бланкі, на якіх больш за адну адзнаку, не прымаюцца. Удзельнічаюць толькі бланкі, выразаныя з газеты.

Той, хто дашле найбольш бланкаў, атрымае планшэт. Клас, вучні якога былі самыя актыўныя, пойдуць усе разам у піцэрыю.

Калі ў вас ёсць пытанні па акцыі, задавайце іх нам па пошце, тэлефоне ці ў сацыяльных сетках.

Перадавайце бланкі ці дасылайце па пошце кожны тыдзень, і вы будзеце сярод тых, хто прэтэндуе на невялікія дадатковыя падарункі.

Прымаецца адзнака па любым прадмеце, атрыманая за 2017-2018 навучальны год.

Поўны спіс правілаў акцыі чытайце на сайце rh.by: rh.by/by/457/50/18289/.

**Аддзел інфармацыі.**

## Бланк удзельніка акцыі "Дзясятачка" (№14)

1. Імя, прозвішча________________________
2. Дата нараджэння ________________________
3. Клас
   Школа________________________
4. Населены пункт________________________
5. Тэлефон, па якім можна звязацца з удзельнікам ці бацькамі
6. Прадмет, за які атрыманая адзнака ________________
7. Якую адзнаку атрымаў ("9" ці "10")__________
8. Дата атрымання адзнакі ________________
9. Імя, імя па бацьку ________________________
10. Прозвішча настаўніка ________________
11. Тэлефон, па якім можна звязацца з настаўнікам____________
12. Подпіс настаўніка________________________

## Дзённік мамы першакласніцы: нам дазволілі хадзіць у буфет



**Так нечакана наблізілася апошняя вучэбная чвэрць, што ні я, ні Варвара пакуль не ўсведамляем. Яшчэ пару месяцаў – і дзяўчынка стане другакласніцай. “Калі перавядуць,” – звычайна з усёй сваёй прадбачлівасцю дадае Варвара.**

Канікулы ў нас пачаліся з культурна-гістарычнага падарожжа. Разам са мной дачка паехала гукаць вясну ў Вязынку. Зрабіла кардонную птушку, падзівілася на ярка апранутых удзельнікаў свята, зайшла ў дом-музей Янкі Купалы, прачытала верш пра маладую Беларусь, выбіты на помніку класіку перад уваходам у музей.

Праўда, на традыцыйных арэлях не пакаталіся: чарга з ахвотных дзетак была вялікая, а ў нас – ні часу, ні цярпення. Затое папілі гарбаты з купальскіх траў і пакаштавалі печыва ў выглядзе птушкі.

За тры вучэбныя чвэрці мы не прапусцілі ў школе ніводнага дня. А вось ад сярэдзіны канікулаў надумаліся захварэць. Таму сарваліся і запланаваныя сустрэчы з сябрамі з дзіцячага садка, і паездка да бабулі.

Але кашаль з тэмпературай не перашкодзіў нам зрабіць урокі: рашалі прыклады, перапісвалі сказы з буквара, шмат чыталі.

А вясну ў Вязынцы мы ўсё ж нагукалі. Ад пачатку чацвертай чвэрці якраз пацяплела. З вялікай радасцю пераапрануліся ў веснавую куртку, і… зусім забыліся, што картка-пропуск засталася ў зімовай. Прывязаная на тасёмачку і сумленна прышытая.

Забытая картка стала для Варвары прычынай крыху панервавацца перад уваходам. Але добрая вахцёрка прапусціла яе і яшчэ некалькі такіх самых “забывак”, пераапранутых у веснавыя курткі.

Ад 2 красавіка ў школьнай бібліятэцы пачаўся тыдзень дзіцячай кнігі. Першакласнікаў запрасілі ў бібліятэку, паказалі новыя кніжкі. На наступным тыдні пачнуць даваць дадому, распавяла Варвара. Але каб атрымаць кнігу з новых паступленняў, на яе трэба запісацца ў чаргу. Варвара запісалася на кніжку пра фей.

А яшчэ нам дазволілі хадзіць у школьны буфет! Таму цяпер грошы на кішэнныя выдаткі патрэбныя не толькі Юлі. Цяпер і Варвара самастойна набывае розную смакату: шакаладкі, арэшкі, семкі.

І хоць не ўсе першакласнікі яшчэ разбіраюцца ў грашах, добрыя буфетчыцы гатовыя дапамагчы:

– Мы даём цёці грошы і просім, каб яна расказала, на што іх хопіць, – падзяліліся неяк вечарам Варвара.

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота аўтара.**




Канікулы для Варвары пачаліся з гукання вясны.

# Не хачу ўнісэкса ні ў журналістыцы, ні ў грамадстве, ні дома

## Шматдзетная мама з Вілейкі – на тэму гендарнай роўнасці

ВІЛЕЙКА

**Прачытала артыкул Аксаны Ярашонак пра семінар шведскай журналісткі Жазэфіны Якабсан на тэму гендарнай няроўнасці, які ладзілі ў рэдакцыі “Рэгіянальнай газеты”. Вы ведаеце, я не хачу ўнісэкса ні ў журналістыцы, ні ў грамадстве, ні дома.**



Малюнак shareamerica.gov.

Наталля Краўчанка ўпэўненая: не варта з мужчын рабіць жанчын і наадварот.

Я не лічу правільным рабіць з мужчын жанчын і наадварот. Абязлічваць людзей у шведскіх артыкулах – гэта справа шведскага грамадства. Але, паверце, мне было б нецікава чытаць у газеце меркаванне “яно”.

### Хто нас вучыць?

Вы ведаеце, што шведскія жанчыны атрымалі выбарчае права толькі ў 1970 годзе? Калі казаць пра нас у гэты час як краіну СССР, то Валянціна Церашкова ўжо даўно, у 1963 годзе, здзейсніла свой легендарны палёт.

У 1960-я гады ў большасці заходнееўрапейскіх краін жанчынам не тое, што лётаць нельга было. Ім для таго, каб адкрыць рахунак у банку, патрабаваўся пісьмовы дазвол ад мужа.

У ЗША толькі ў 60-я гады мінулага стагоддзя было ўзаконенае права на роўную аплату працы, а працэнт жанчын у прэстыжных універсітэтах, дзе вывучалі права, бізнес, медыцыну, не перавышаў 5-8%.

100 гадоў рэвалюцыі 1917 – гэта стагоддзе і нашаму айчыннаму “фемінізму”. Жанчыны сталі такімі ж грамадзянамі, як і мужчыны, з роўнымі правамі. Згадаем Аляксандру Калантай – жанчыну, якая стала Народным камісарам дзяржаўнага догляду. Калі гаварыць сучаснай мовай – міністр сацыяльнага забеспячэння. Першая жанчына-міністр у гісторыі! З яе ўдзелам прынялі Сямейны кодэкс у 1918 годзе і ўсталявалі роўны статус паміж мужам і жонкай. У 1918 годзе пра гэта жанчыны ў заходніх краінах маглі толькі марыць.

### Рэалізаваць сябе ў якасці спецыяліста і маці

Я лічу, што і сёння ў нашай краіне ёсць усе ўмовы, каб жанчына магла сябе рэалізаваць і ў якасці спецыяліста, і ў якасці маці. Велізарную ролю адыгрываюць асабісты выбар чалавека, яго здольнасці марыць, ставіць мэты і ісці да сваёй мары.

**Я свабодна валодаю трыма замежнымі мовамі, год вучылася па стыпендыі ў Варшаўскім універсітэце. Затым па стыпендыі DAAD – арганізацыі, якая падтрымлівае маладых спецыялістаў і студэнтаў з усіх краін свету.**

Дзякуючы гэтай стыпендыі я змагла вучыцца ў прэстыжным Еўрапейскім каледжы, прайшла вялікі конкурс і стала стажорам у Еўрапейскай камісіі. І ўсё ж так склалася, што магчымасцяў рэалізавацца я атрымала больш менавіта ў роднай Беларусі.

Але пагоня за кар’ерным ростам не зрабіла мяне больш шчаслівай. Усё ж жанчына не павінна забываць, што яна жанчына. А мужчына, на маю думку, гэта не той, хто рэкламуе кухонны посуд, а той, хто бярэ на сябе адказнасць за сваю сям’ю. Жадаю нашым мілым і моцным беларускім жанчынам быць шчаслівымі і любімымі, марыць і не баяцца мяняць сваё жыццё!

**Наталля КРАЎЧАНКА,**
**мама траіх дзяцей,**
**Вілейка.**

## Доктар-псіхіятр: мужчыны – больш лагічныя, жанчыны – больш эмацыйныя

МАЛАДЗЕЧНА

Мы звярнуліся да **Аляксандра Бажко** з просьбай распавесці, якія адрозненні ёсць у мужчынскай і жаночай псіхіцы.

Як распавёў доктар, псіхіка мужчыны або жанчыны – гэта прадукт псіхічных працэсаў. Таму пытанне вельмі шырокае: калі гаварыць пра такія адрозненні, то трэба казаць пра адрозненні ў кожным з псіхічных працэсаў чалавека. А такіх працэсаў восем: адчуванне, успрыняцце, уяўленне, памяць, мысленне, увага, маўленне.

Найбольш часта можна пачуць гіпотэзу пра адрозненні ў мысленні мужчын і жанчын. Прынята лічыць, што мужчыны думаюць левым паўшар’ем, значыць, іх думкі больш лагічныя і аналітычныя. У жанчыны найбольш актыўнае правае паўшар’е – адсюль інтуітыўнасць і эмацыйнасць. На думку доктара, гэта гіпотэза блізкая да сапраўднасці.

**Аксана ЯРАШОНАК.**







**На фота зверху: удзельнікі майстар-класа. Злева – Мікалай Кот. Справа – сябры клуба "Мудры ўзрост" клеяць велікодны кошык.**

# Пенсіянеры майстравалі велікодныя ўпрыгажэнні

МАЛАДЗЕЧНА

**Майстар-класы "Велікодныя цуды" для членаў клуба "Мудры ўзрост" прайшлі ў цэнтры творчасці дзяцей і моладзі "Маладзік" 31 сакавіка, напярэдадні хрысціянскага свята.**

Метадыст цэнтра творчасці **Таццяна Рамановіч** запрасіла гасцей у выставачную залу, дзе прадстаўленыя лепшыя работы навучэнцаў. У цэнтры ўвагі была экспазіцыя вырабаў удзельнікаў раённага конкурсу "Велікодныя цуды".

– Вялікдзень – адзін з самых светлых і добрых святаў, – расказвае метадыст. – Традыцыі нашых продкаў адраджаюцца з новай сілай: людзі сталі ўпрыгожваць свае дамы, рыхтаваць падарункі блізкім.

Вянкі, кошыкі з яйкамі, паштоўкі, вербачкі, сувеніры – працы ў розных тэхніках і накірунках здзіўлялі творчым падыходам і фантазіяй юных умельцаў. Натхнёныя ўбачаным, удзельнікі сустрэчы адправіліся на майстар-класы, дзе, узброіўшыся нажніцамі, клеем і паперай, прыняліся за выраб сувеніраў пад кіраўніцтвам педагогаў і навучэнцаў цэнтра творчасці.

**Стараючыся не адставаць ад хлопчыкаў і дзяўчынак, дарослыя склейвалі кошыкі для яек, упрыгожвалі паштоўкі.**

Пажылыя людзі ўжо не першы раз наведваюць цэнтр творчасці "Маладзік". Падобныя сустрэчы арганізуе клуб "Мудры ўзрост" пры раённым тэрытарыяльным цэнтры сацабслугоўвання насельніцтва, створаным для арганізацыі вольнага часу пенсіянераў. Кіраўнік клуба **Алена Камісарук** распавяла, што для яго ўдзельнікаў праводзяць разнастайныя сустрэчы, экскурсіі, святы:

– Нядаўна мы былі на экскурсіі ў РАУС, плануем наведаць музей Вялікай Айчыннай вайны ў Мінску. Сярод членаў клуба ёсць людзі, для якіх 11 красавіка – Міжнародны дзень вызвалення вязняў фашысцкіх канцлагераў – не проста дата ў календары. Каб ушанаваць памяць тых, хто сутыкнуўся з жахамі вайны, арганізуем наведванне мемарыяльнага комплексу "Шталаг-342". Хутка пачне працу трэнінгавая група для пажылых людзей, накіраваная на асобасны рост кожнага ўдзельніка і актывізацыю ўнутраных рэсурсаў у пераадоленні крызісных сітуацый.

**Людміла Кандрашына** ў клубе "Мудры ўзрост" чатыры гады. Самым цікавым і карысным для жанчыны аказалася асваенне камп'ютара, цяпер яна ўпэўнена адчувае сябе ў інтэрнэце, мае кантакты ў сацыяльных сетках, карыстаецца скайпам.

– Наш калектыў вельмі дружны, як сям'я, – дзеліцца ўражаннямі Людміла. – У нас былі аздараўленчыя мерапрыемствы, працавалі з трэнерам па фізкультуры больш за паўтара года. Ад сённяшняга мерапрыемства проста ў захапленні. Паштоўку, якую зрабіла, падару дачцэ.

Сваё прызначэнне знойдзе і выраб **Мікалая Ката**. Карзінку дапоўніць уручную размаляванымі яйкамі і хоча прадставіць на конкурсе "Саюза палякаў на Беларусі", прысвечанага каталіцкаму Вялікадню.

Мікалай усё жыццё працаваў у калгасе, а яшчэ амаль 50 гадоў друкуецца ў газетах. Дома захоўвае тры альбомы з публікацыямі ў мясцовых выданнях.

Нядаўна мужчына адсвяткаваў 70-годдзе, у гонар якога атрымаў фотаапарат ад старшыні "Саюза палякаў на Беларусі", памятныя фатаграфіі ад клуба "Мудры ўзрост".

Каб наведваць заняткі клуба, Кот прыязджае ў Маладзечна з Маркава. Па горадзе ходзіць пешшу і імкнецца харчавацца правільна, як яго вучылі на спецыяльных сустрэчах "Мудрага ўзросту".

**Надзея БОБРЫК, школа журналістыкі "Маладзік". Фота Таццяны РАМАНОВІЧ.**

# У Смаргоні справілі Камаедзіцу, каб мядзведзь сонца адпусціў

СМАРГОНЬ

**Надзвычай весела і задорна прайшло святкаванне беларускага народнага свята Камаедзіца ў яслях-садку 28 сакавіка.**

Яно прысвечанае сустрэчы вясны, абуджэнню прыроды, нараджэнню новага лета, ушанаванню мядзведзя. Лічылася, што мядзведзь прачынаецца на другі дзень пасля Камаедзіцы. Якраз у гэты час ён сапраўды прачынаўся ад спячкі і зусім як увесь свет і разам з ім чалавек скідваў са сваіх плячэй зімовыя путы.

Менавіта гэтай лясной істоце ў старажытныя часы надаваліся незвычайныя ўласцівасці, яму пакланяліся. Каб заручыцца спагадлівасцю мядзведзя, у лес яму насілі пачастункі – гарохавую кашу, якая часта зліпалася ў камы.

**Гэтыя камы, верагодна, і далі назву ўсяму святу "камаедзіца" – "камы есці".**

Гэта свята на пэўны час было забытае, здраджанае. Але паступова пра яго ўспомнілі і з радасцю зноў сталі адзначаць. Знаёміць дзяцей з народнай абрадавасцю беларусаў стала добрай традыцыяй у яслях-садку. Камаедзіца зацікавіла музычнага кіраўніка **Алену Варанкову**, якая і стала натхняльнікам адраджэння свята.

Адзначалі яго ў ранейшыя часы ў першы тыдзень пасля вясенняга раўнадзенства. У некаторых крыніцах апісана, што адзначалі 24 сакавіка перад Дабравешчаннем. У нашым садку абуджаць мядзведзя ад зімовага сну ў святочна ўбранай музычнай зале сабраліся выхаванцы старэйшых груп 28 сакавіка.

Галоўным удзельнікам свята, канешне, стаў мядзведзь. Свавольны, вясёлы лясны жыхар танцаваў разам з дзецьмі, спяваў жыццесцвярджальныя песні пра Смаргонскі край, пра Беларусь, пагуляў з імі ў беларускія народныя гульні "Гарлачык" ды "Дзіравы капялюш".

**Выхаванцы пад музычнае суправаджэнне паківаліся з боку ў бок, каб мядзведзю лягчэй прачыналася, каб быў ён лагодны ды школы людзям не рабіў.**

Падчас правядзення свята дзеці адгадвалі загадкі, звязаныя з жыццядзейнасцю мядзведзя, назіралі за сваім "абуджаным" добрым лясным госцем, частавалі яго рознымі стравамі, што былі на стале, упрыгожаным тканым абрусам.

Дзеці з вялікім захапленнем уключаюцца ў такія святы. Спадзяёмся, што адроджанае свята Камаедзіца моцна ўжывецца ў сэрцах выхаванцаў.

**Вера БУЯКЕВІЧ, намеснік загадчыка па асноўнай дзейнасці ясляў-садка №8 Смаргоні. Фота Таццяны ЗАЙКО.**



**У свяце ўдзельнічалі ўсе выхаванцы садка.**

# Беларуская мачанка з блінамі ў немцаў пайшла на “ўра”

## Ураджэнец Вілейшчыны Уладзімір Папковіч – пра паездку ў Германію на пачатку 1990-х

ВІЛЕЙКА

**Яшчэ падчас першай паездкі ў Германію пісьменнік і перакладчык Уладзімір Папковіч зразумеў: немцы любяць сваю малую радзіму і паказваюць гэту любоў розным чынам.**

Які б маленькі гарадок альбо вёска ні былі, яны адлюстраваныя ў маляўнічым альбоме, дзе неабавязкова гераічнае мінулае і не менш гераічная сучаснасць, як найчасцей у нас, дзе маляўнічасці мала, а слоў пра тое, якія мы прыгожыя, шмат.

У альбоме “На многіх шляхах... Айторф” амаль адны пейзажныя, але вельмі маляўнічыя фатаграфіі розных прыгожых мясцін. Маленькая прадмова, на паўстаронкі, і цудоўныя вывы роднага краю. Толькі некалькі цытатаў двух пісьменнікаў – Германа Гесэ і Петэра Хандтке.


Фота fb.com

Уладзімір Папковіч у фантастычнай бібліятэцы нямецкага горада Вецлара.



Фота za7verst.ru


Фота za7verst.ru

Дом, дзе цяпер знаходзіцца музей Карла Маркса, пабудаваны ў Трыры ў 1727 годзе.

### У 1990-я дамафоны былі дзівам дзіўным

Падчас падарожжа ў 1991 годзе для сваіх сяброў Урсулы і Клаўса Хайнэке пісьменнік прывёз з сабой літаратурны часопіс “Нёман”, дзе былі па-руску надрукаваныя нататкі пра мінулагодні прыезд у Германію з групай студэнтаў і выкладчыкаў. На рускай мове не кожны немец зразумее, таму Уладзімір Антонавіч перакладаў вусна на магнітную стужку на нямецкую мову.

Помніцца пісьменніку вячэра ў сям’і Герстэр. Вялікі дом, сабака, электронная пішучая машынка. І тое, што сёння ў нас у кожным пад’ездзе – дамафон – тады, у 1990-я, было дзівам. Дзверы аўтаматычна адчыняюцца! Уключаецца святло!

### Пра Карла Маркса і дзядзьку Карла

У адзін з дзён падарожжа наведалі Трыр.

– Што я ведаў пра Трыр? Вельмі шмат: Карл Маркс нарадзіўся ў горадзе Трыры 5 мая 1818 года. І яшчэ: у 50 гадоў Карл Маркс пачаў вывучаць рускую мову, – дзеліцца пісьменнік.

Ва Урсулы Хайнэке ў Трыры жыў дзядзька Карл, якога яна так і называла Onkel Karl. Дзядзька Карл нарадзіўся ў 1902 годзе, значыць, тады, у 1991-м, яму ішоў 90-ы. Яго сын Рудольф быў пастарам у кляштары.

– Дзядзька Карл пахваліў мяне за тое, што мне вядомы горад Трыр і што я ведаю біяграфію Карла Маркса, – прыгадвае Папковіч. – Але Трыр зведаў куды больш важныя падзеі. Горад заснавалі яшчэ старажытныя рымляне. Кляштар і царква святога Матэя стаяць цяпер на месцы рымскіх раннехрысцянскіх пахаванняў.

Пад кіраўніцтвам дзядзькі Карла мы агледзелі Трыр. Вось Порта Нігра – Чорныя вароты, рэшткі магутнага збудавання часоў Рымскай імперыі. А вось не меней старажытны сабор, гісторыя якога ўзыходзіць да гадоў вялікага перасялення народаў. Самыя старыя часткі дома адносяцца да чацвертага стагоддзя нашай эры.

Ёсць у Трыры і вуліца знакамітага ўраджэнца – Карла Маркса. Яна нібы з’яўляецца працягам старога Рымскага моста. На гэтай вуліцы знаходзіцца і музей. Наведнікаў за год бывае да сарака тысяч. Асабліва шмат з былой ГДР і іншых сацыялістычных краін.

– Мы хадзілі, разглядалі дакументы, вывучалі біяграфію аўтара “Капітала”, – прыгадвае падзеі 30-гадовай даўніны мой субяседнік. – Адыходзячы ўжо, пытаюся ў адміністратаркі: “А шмат у Трыры камуністаў?” – “Я ніводнага не ведаю”, смяецца жанчына.

Гэта не столькі музей жыцця і творчасці Карла Маркса, лічыць Уладзімір Антонавіч, колькі біяграфія самога дома, бо пабудаваны ён у 1727 годзе.

Пасля наведвання музея пісьменнік запытаў у дзядзькі Карла, што было няправільнае ў тэорыі Карла Маркса? Дзядзька не пагадзіўся, што ў тэорыі Карла Маркса было штосьці няправільнае. Ён лічыў яго вялікім філосафам і эканамістам.

Дзядзька Карл аказаўся паэтам. Ён падарыў калегу з Беларусі тры тамы сваіх вершаў, выдадзеныя прыватна з вельмі добрымі малюнкамі-ілюстрацыямі ягонай знаёмай мастачкі. А яшчэ на развітанне з Трырам і дзядзькам Карлам Уладзімір Папковіч ўзяў у яго інтэрв’ю.

Яшчэ да ад’езду з Трыра Уладзімір Папковіч наведаў Шаматдорф – вёску ў горадзе. Гэта паселішча знаходзіцца на поўдні Трыра на тэрыторыі Бенедзіктынскага манастыра святога Матэя. Гэта жылы мікраraён сацыяльнага прызначэння. У рамках сацыяльнага жыллёвага будаўніцтва тут быў створаны раён, у якім могуць жыць па суседству, побач, дапамагаючы адзін аднаму, “звычайныя” людзі з тымі, якія з-за іх асаблівасцяў рознага характару не могуць жыць самастойна... Дакумент пра Шаматдорф , з якім пазнаёміўся мой субяседнік, дае поўнае ўяўленне пра структуру і функцыянаванне вёскі як ажыццяўлення вельмі гуманнай ідэі – людской узаемадапамогі ў гарадскім асяроддзі. Дакумент цяжка перакладаецца, бо з’явы і тэрміны, закладзеныя ў іх, часта патрабуюць апісання на некалькі абзацаў, ці нават на цэлую старонку, бо ў нас адпаведных слоў і тэрмінаў яшчэ няма.

### Распавядаў пра Беларусь, яе гісторыю і мову

У гарадку Айторфе пісьменніка запрасілі выступіць на сходзе сяброў краязнаўчага таварыства.

– Мне здаецца, што ў Германіі няма ніводнага чалавека, які б не быў сябрам якога-небудзь таварыства, – жартуе Уладзімір Антонавіч.

На сустрэчу прайшло чалавек каля 30. Немцам беларускі пісьменнік распавядаў пра загадкавую краіну Беларусь, яе жыхароў, сталіцу, гісторыю, мову, а таксама чытаў свае беларускія вершы ва ўласным перакладзе на нямецкую.

Па назіраннях майго субяседніка, немцаў, якія перажылі нацызм, палохаюць словы “нацыянальная самасвядомасць”.

У Боне пісьменнік і выкладчык не мог не зазірнуць у кнігарню.

– У велізарнай, у некалькі паверхаў, кніжнай краме, знайшоў усё, што шукаў для заняткаў са студэнтамі, – згадвае Уладзімір Антонавіч.

А вечарамі нямецкіх гаспадароў жонка майго субяседніка Ларыса частавала беларускімі стравамі. Немцы тады асабліва ўпадабалі мачанку з блінамі.


Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
8-044-566-26-99 (працоўны)

# Пярэградзь у фотаздымках Уладзіміра Сіза

**Персанальная выстава фотамастака Уладзіміра Сіза прайшла ў Паставах, Мядзеле, Вілейцы, Астраўцы, Ашмянах. Цяпер яна экспануецца ў абласным драматычным тэатры ў Маладзечне.**



Мінулай снежнай зімой.

Фота з асабістага архіва Уладзіміра СІЗА.

У архіве фотажурналіста – больш за мільён кадраў.

**– Уладзімір Сцяпанавіч, за які тэрмін сабраўся такі вялікі архіў?**

– Першыя кадры былі знятыя ў 1963 годзе. Тады мне, падлетку, які жыў у вёсцы ў Чарнігаўскай вобласці, бацькі падарылі танны фотаапарат "Вясна". Першы досвед фотаздымкі быў восенню 1963 года – тады ў нас у вёсцы святкавалі 20-годдзе вызвалення Чарнігаўшчыны ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў і адкрывалі помнік загінулым аднавяскоўцам.

Урачыстасці з гэтай нагоды здымаў фотакарэспандэнт раённай газеты. Куды ён, туды і я са сваім новенькім фотаапаратам. Ён хацеў залезці на дрэва, але не змог, а я, хлапчук, лёгка ўскараскаўся. Зняў адтуль агульны план мітынгу. Як жа ганарыўся, што хоць у чымсьці фотамайстра абскакаў!

Але расчараванне прыйшло адразу: на праяўленай стужцы не аказалася ніводнага кадра. Мяне ж мой першы няўдалы досвед навучыў шмат чаму, таму стараўся здымаць і думаць, а не проста "пстрыкаць".

Пасля службы ў арміі пачаў шукаць работу фотакарэспандэнта ў газеце, але без "фатаграфічнай" адукацыі не бралі. Лічу, што пашанцавала: прачытаў у газеце аб'яву, што ў фотаатэлье ў Навазыбкаве Бранскай вобласці патрэбны фатограф – паехаў туды, узялі вучнем. Патрапіў да майстра, які ўмеў працаваць са святлом і так пабудаваць кадр, як ніхто іншы. Вучыўся ў яго не толькі майстэрству фатаграфіі, але і ўменню мець зносіны з чалавекам, дапамагчы яму раскрыцца і перадаць на фота характар і асобу. Праз некалькі месяцаў з'ехаў адтуль з даведкай фатографа пятага разраду і адпаведным запісам у працоўнай кніжцы.

Па аб'яве ў часопісе "Журналіст" знайшоў



Уладзімір Сіз, фотамастак.

Фота з асабістага архіва Уладзіміра СІЗА.

месца фотакарэспандэнта на Магілёўшчыне, у Бялыніцкай раённай газеце. І з таго часу ўсё маё жыццё звязанае з беларускай фотажурналістыкай.

**– Памятаю, як у сумесных з вамі камандзіроўках вы ставілі ў тупік прадаўцоў сельмагаў, сур'ёзным тонам просячы прадаць сшыткі ў кружочак ці ручку для трэцяга класа. Гумар дапамагае вам у працы, а з гадамі гэта несур'ёзнае стаўленне да жыцця не зменшылася?**

– О, так, гумар вельмі дапамагае. Пажартаваў вось так – глядзіш, герой будучага фотаздымка расслабіўся, знікла скаванасць перад фотааб'ектывам. Ён сам пачынае жартаваць і распавядаць пра сябе тое, што ў іншай сітуацыі нізк не паведаміў бы.

**– У такой колькасці фотаздымкаў ёсць партрэты знакамітых людзей, фотакадры вядомых месцаў, архітэктурных жамчужын. Вы ж выбралі для выставы гісторыю маленькай знікаючай вёсачкі на Мядзельшчыне. Чаму?**

– Дваццаць пяць гадоў таму я набыў у вёсцы Пярэградзь на Мядзельшчыне старэнькі дом. Паступова перарабляў яго. Гэта вёска і мой невялікі домік за чвэрць стагоддзя сталі часткай майго жыцця. Калі стаў пенсіянерам, у вёсцы праводжу больш часу, чым у Мінску. Усё жыццё не расставаўся са сваім добрым сябрам і памочнікам – фотаапаратам. За 25 гадоў зрабіў каля тысячы здымкаў вёскі і наваколля – фатаграфаваў прыроду ў розныя часы года, жыхароў, гасцей. З гэтай тысячы фатаграфій спачатку адабраў каля двухсот, а потым толькі 95 – яны і ўвайшлі ў экспазіцыю выставы.

Калі задумаў выставу, заняўся вывучэннем гісторыі і тапанімікі вёскі – гутарыў з жыхарамі, вывучаў архівы і матэрыялы ў інтэрнэце. Аказваецца, што Пярэградзі больш за 500 гадоў. Узнікла яна на старажытным Альгердавым шляху з Полацка, праз Паставы, Вілейку, Маладзечна... Можа, і назва таму ўзнікла, што тут была перашкодай на дарозе падарожнікам, была памежная варта Полацкага княства і адыходзіла самая кароткая дарога да возера Мядзел і замка на выспе. У першай палове 15 стагоддзя паселішча з высвы было перанесенае на паўночны бераг возера Мястра, а вёска Пярэградзь засталася і нават ёсць на карце 1800 года.

Цяпер ад старога Альгердава шляху ў вёсцы засталося толькі тры кіламетры.



Від на возера Мядзель і востраў Замак.

Фота з асабістага архіва Уладзіміра СІЗА.

Яна жыве і цяпер, хоць з кожным днём жыццё сыходзіць з яе, з'язджае моладзь бліжэй да выгод цывілізацыі. У 1992 годзе ў вёсцы было яшчэ 19 кароў, а ў 2005-м пенсіянеры Альфрэда і Іван Гурманы прадалі апошнюю ў вёсцы карміцельку.

Зімаваць тут застаецца толькі трое пенсіянераў, але вясной вёска ажывае – прыязджаюць нашчадкі вясковых гаспадароў, дачнікі. Гісторыя Пярэградзі – гэта гісторыя маленькіх вёсачак Беларусі. Гісторыя, спыненая ў фотаздымках. Такая была ідэя маёй першай персанальнай выставы. Упершыню яна адкрылася ў ноч музеяў у Мядзеле.

**Гутарыла**
**Наталля ВАЛЫНЕЦ.**

● КАЛЯНДАР

6 КРАСАВІКА



**1947 год.** Нарадзіўся **Уладзімір Хільмановіч**, беларускі гісторык, журналіст. Аўтар і распрацоўшчык, кіраўнік шэрагу адукацыйных праектаў, сурэдактар серыі брашур для настаўнікаў "Праз адукацыю – да грамадзянскай супольнасці", адзін з аўтараў і рэдактараў кнігі "Białoruskie wędrówki", аўтар шматлікіх аналітычных публікацый. Актыўны дзеяч грамадска-палітычнага руху ад 1987 года. Адзін з заснавальнікаў першай у Заходняй Беларусі моладзевай грамадскай арганізацыі "Заходне-Беларускае згуртаванне моладзі" (1989). Адзін з ініцыятараў стварэння Беларускага краязнаўчага таварыства імя Тодара Нарбута, інш.

7 КРАСАВІКА

**1983.** 35 гадоў таму памерла **Ларыса Геніюш**, беларуская паэтэса, празаік, грамадскі дзеяч, вязень ГУЛАГу. Нарадзілася 27 ліпеня (10 жніўня) 1910 года.

**95 гадоў** назад (1923) створаная Дзяржаўная планавая камісія (Дзяржплан) БССР.

8 КРАСАВІКА

**Вялікдзень** (па календары праваслаўнай канфесіі).

**Міжнародны дзень цыганоў.** Цыганы – зборная назва каля 80 этнічных груп, аб'яднаных агульнасцю паходжання і прызнаннем "цыганскага закона". Усе гэтыя этнічныя групы з'яўляюцца носьбітамі непаўторнай культурнай спадчыны, для захавання якой 8 красавіка 1971 гады ў Лондане адбыўся Першы сусветны цыганскі кангрэс, на якім прысутнічалі дэлегаты з трыццаці дзяржаў планеты. Галоўнымі вынікамі гэтага цыганскага кангрэса стала прызнанне сябе цыганамі свету адзінай непатарытарыяльнай нацыяй і прынясце цыганскіх нацыянальных сімвалаў: сцяга і гімна. Міжнародны дзень цыганоў – падзея не толькі для саміх цыганоў, але і для прыхільнікаў цыганскай культуры, бо ў гэты дзень па ўсім свеце праходзяць разнастайныя канцэрты, прэзентацыі, фестывалі, на якіх усе ахвотныя могуць акунуцца ў самабытны фальклор цыганскага народа.

12 КРАСАВІКА

**165 гадоў** з дня нараджэння **Станіслава Людвіка Пташыцкага** (Станіслава Львовіча) (1853 – 1933), гісторыка, архівіста, даследчыка помнікаў старажытнай пісьменнасці Беларусі, Літвы і Польшчы.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**



Павел Стужынскі працуе вадалазам у прыватнай фірме.



З жонкай Сняжанай на фоне камчацкіх сопак.

# Я працую на Камчатцы, ем ікру лыжкамі і вітаюся з мядзведзямі

МАЛАДЗЕЧНА

**Ад Маладзечна да Петрапаўлаўска-Камчацкага больш за сем тысяч кіламетраў.**

Там няма ні трас, ні чыгункі. Нас раздзяляюць дзевяць гадзін. І аб'ядноўвае адзін маладзечанец, Павел Стужынскі, які аднойчы рызыкнуў і перабраўся туды на працу.

### Што я забыўся на краі Зямлі?

Гэта самае частае пытанне, якое задаюць Паўлу яго сябры.

Насамрэч, ад знаёмых сваіх знаёмых Павел яшчэ ў 2013 годзе пачуў, што на Камчатку патрабуюцца вадалазы.

– Я тады працаваў у МНС. Пакуль быў у адпачынку, злётаў на Камчатку на месяц, паглядзеў. Пасля мяне ў 2015 годзе запрасілі. Тады я не адважыўся, а калі ў 2017 паўтарылі прапанову, я вырашыў: эх, была не была. Звольніўся з МНС і пераехаў сюды. А не так даўно перавёз сюды жонку і дачку.

Павел працуе ў прыватнай фірме вадалазам.

– Работы выконваем розныя: суднапад'ём, паглыбленне дна, падводная зварка і рэзка, абслугоўванне караблёў, рамонт і будаўніцтва пірсаў. У плане рэалізацыі сябе як прафесіянала тут вялікая перспектыва, у Беларусі спектр работ не такі шырокі, хочацца ўдасканальвацца і пазнаваць новае.

### Пакет кефіру на Камчатцы каштуе шэсць беларускіх рублёў

Праца вадалаза складаная і цяжкая, таму лагічна было запытацца ў Паўла, ці заграбае ён грошы лапатай?

– На гэты конт на Камчатцы ёсць барадаты анекдот. Сын піша ліст маці: "Мама, тут, на Камчатцы, грошы грабуць лапатай, вышлі, калі ласка, 700 рублёў на лапату".

На самой справе, кажа Павел, тое, што на Далёкім Усходзе зарабляюць шмат – гэта стэрэатып.

Сярэдні заробак па краі прыкладна 70 тысяч расійскіх рублёў (прыкладна 2 400 беларускіх рублёў).

– Мой заробак вышэй за сярэдні. Для Беларусі гэта сума добрая, але тут вельмі дарагое жыццё. Каб зняць аднапакаёвую кватэру, трэба выкласці каля 25 тысяч рублёў (прыкладна 800 беларускіх), прадукты даражэйшыя ў два-тры разы, малочка дарагая неверагодна, пакет кефіру на нашы грошы каштуе шэсць беларускіх рублёў. Інтэрнэт з тэлебачаннем у месяц абыдзецца ў чатырыпяць тысяч расійскіх (170 беларускіх).

Затое кілаграм ікры каштуе танней, чым кошт за інтэрнэт.

– Але тут яе лыжкамі не ядуць. Выбар вялікі, цана на рынку каля трох тысяч рублёў за кілаграм (100 беларускіх рублёў). У каго ёсць выхад у мора, хто мае лодку або працуе на караблі, той можа дазволіць сабе такія далікатэсы часцей. Мая прафесія мне таксама гэта дазваляе, часам лаўлю крабаў, марскіх вожыкаў.

Калі марскіх вожыкаў Павел ловіць, то з марскімі львамі – "супрацоўнічае".

### Па горадзе ходзяць мядзведзі, а ў моры плаваюць марскія львы

– Сівучы іх называюць, яны занесеныя ў Чырвоную кнігу, іх у свеце зусім мала. Вельмі цікавыя і цікаўныя жывёлы. У даўжыню да трох метраў і важаць каля тоны. Апошнім часам часта даводзіцца сустракацца з імі пад вадой, яны любяць назіраць, як я працую. Але нечаканая сустрэча з імі палохае. Сівучы не агрэсіўныя, калі не праяўляць агрэсіі да іх і не замахвацца на іх тэрыторыю.

Увогуле, прызнаецца Павел, прырода Камчаткі – гэта іншы свет.

– Камчатка – гэта край, дзе прырода пакуль перамагае чалавека. Гэта вельмі цікавае месца, можна шмат пра яго гаварыць. Тут ёсць стэла "Тут пачынаецца Расія", гэта тая Расія, пра якую пішуць і гавораць: тут ходзяць мядзведзі па горадзе. Я не перабольшваю. Бывае, выходзяць прама ў горад, а на лецішчах у людзей дык увогуле звычайная рэч. Цяпер спяць, бо на Камчатцы яшчэ зіма. А летам, калі ў лесе поўна ягад, можна ўбачыць дзіўную карціну – мядзведзяў, якія пасуцца на палянах як свойскія жывёлы. Камчацкія мядзведзі да людзей не агрэсіўныя. Яны "вегетарыянцы". Тут у моры шмат рыбы, так што мішкі пад'еўшыя і шчаслівыя. Лісы ходзяць па горадзе як бадзяжныя сабакі ў нас.

А яшчэ снегу за зіму тут выпадае столькі, як у два росты чалавека.

– Тут ты не камчадал (так называюць жыхароў Камчаткі), калі ў цябе не круты праварульны "Лэнд-Крузер" з коламі па грудзі. А яшчэ тут у мінус 30 можна лашчыцца ў гарачай тэрмальнай крыніцы, якая сілкуецца энергіяй вулкана. І практычна з кожнага пункта горада бачныя тры дзейсныя вулканы. Усяго іх тут таксама 29.

Павел расказвае, што сам яшчэ не прывык да такіх дзівосаў, а што тычыцца яго сям'і – жонкі Сняжаны і дачкі Кіры, – дык для іх жыццё на Камчатцы – гэта вялікая прыгода і экскурсія ў касмічны свет.

**Наталля ТУР.**
**Фота забяспечанае Паўлам СТУЖЫНСКІМ.**



Звычайная вячэра на Камчатцы.



Білет да Масквы з Камчаткі каштуе прыкладна 1000 долараў. Таму добра, што сям'я цяпер разам.



Марскія львы тыя яшчэ ласуны.

# “Пасля турмы сістэма прымушае вярнуцца на зону”

МАЛАДЗЕЧНА

**Летась на Маладзечаншчыну прыехала амаль 300 чалавек, якія вызваліліся з месцаў пазбаўлення свабоды. З чым былыя заключаныя вяртаюцца, як наладжваюць сваё жыццё і што перашкаджае іх адаптацыі?**

Маладзечанец Ягор (імя зьмененае па просьбе героя) вярнуўся з турмы ў мінулым годзе. Мы папрасілі яго распавесці, што трэба чалавеку, які вызваліўся з турмы, каб адаптавацца ў грамадстве і застацца на свабодзе.

– Такое адчуванне, што калі чалавек вызваліўся, то органы хочуць як мага хутчэй вярнуць яго назад у турму. Нібы калі аднойчы пераступіў рысу закона, значыць, будзе пераступаць пастаянна. І ператвараешся ў матэрыял для зараблення зорачак.

У некаторых краінах, седзячы ў турме, можна зарабіць грошы. І выйсці з добрым капіталам, якога хапае, каб пачаць новае жыццё. А ў мяне зарплаты за працу ў турме па разліковым рахунку адзін месяц – дзве капейкі, другі – тры. Калі нехта лічыць, што за адсідку ў турме могуць зарабіць, каб пагасіць іск, так дакладна не атрымаецца.

Хто не мае прафесіі, у турме можа атрымаць, напрыклад, спецыяльнасць сталяра, вадзіцеля, трактарыста. Можна вучыць замежныя мовы. Фармальна прафесія будзе.

Калі выходзіш, даюць грошы на білет, каб даехаць дадому. Мне далі менш за пяць рублёў, каб даехаць з Магілёва. Былі яшчэ грошы, якія даслала мама.

**Тое, што турма можа выправіць – ёй можна напужаць толькі таго, хто там не быў. Калі чалавек адбыў тэрмін, ужо турмы не баіцца.**

Калі датэрмінова вызваляюць, трэба хадзіць адзначацца ў інспекцыю. Правяраюць дома, і чалавек адчувае сябе несвабодна.

Нават калі адбыў тэрмін да канца, дзяржаве ўжо нічога не павінны, сваё цалкам адбыў, усё роўна ставяць на ўлік. Падаўжаюць нагляды, калі, напрыклад, не начаваў дома. Як малое дзіця – тры разы дома не начаваў – усё, можаш год атрымаць.

Трэба быць ідэальным арыштантам, каб выйсці на свабоду без нагляду. Нагляд як даюць? Пакуль у турме, фіксуюць парушэнне рэжыму. Напрыклад, у турме ў тваёй сумцы на складзе былі няўлічаныя рэчы. За гэта – парушэнне. Прасцей нават рэчавай сумкі не мець, таму што пры праверцы знайшлі няўлічаную шкарпэтку – усё, парушэнне. Нават калі проста вымову дадуць у турме, за гэта могуць даць паўгода нагляду па выхадзе.

Турма накіроўвае райаддзелу міліцыі, які нагляд прызначылі. Чалавек вызваліўся, а кудысьці схадзіць можна, толькі каб у 21 гадзіну быць дома. Выпраўленчая інспекцыя сочыць, як вызвалены выконвае нагляд. Могуць тры разы за ноч прыехаць праверыць, а табе ў шэсць раніцы на працу ўставаць.

## Чым дапамагаюць вызваленым

Ёсць такія, каго на волі ніхто не чакае. Некаторыя звяртаюцца ў касцёл, там прапануюць гуманітарную дапамогу – адзенне і 30 кілаграмаў прадуктаў – крупы, кансервы. З жыллём таксама дапамагаюць.

У вызваленых ёсць перавага ў працаўладкаванні. Рабочае месца на біржы фармальна знойдуць, нават калі для звычайных шукальнікаў вакансій няма.

## А чаму куртка добрая? Скраў?

У табе бачаць патэнцыйнага злачынцу, нават калі ты нічога не здзейсніў. Ідзеш адзначацца, табе кажуць – а чаму ў цябе такая куртка добрая, ці не скрадзеная? Калі лічыце, што я злачынца – знайдзіце, у чым, дакажыце і пасадзіце, а не фантазіруйце. А чаму я павінны быць апрануты горш за вас, я ж таксама ўжо свабодны чалавек, мне далі пашпарт, я грамадзянін, а не асуджаны.

Атрымаць можна самую брудную працу. Хаця з біржы і даюць накіраванне, працадаўцы знаходзяць прычыны, каб адмовіць. Таму што ніхто не хоча звязвацца з інспекцыяй. Гэта пастаянныя праверкі, а якому кіраўніку такое трэба.

Калі чалавек вызваліўся, няма блізкіх, якія могуць дапамагчы, то пражыць за 300 рублёў заробку нерэальна. Некаторым даводзіцца ісці красці проста каб паесці. Нават калі дапамогуць гуманітаркай, пастаянна ж дапамагаць не будуць, трэба самому станавіцца на ногі.

Завесці сям'ю зусім не проста. Знайсці добрую жанчыну – гэта шанцаванне.

## Сеў раз – сядзеш яшчэ

І для грамадства, і для працадаўцы важна, за што чалавек быў асуджаны. Калі за крадзеж – то ў магазін грузчыкам не бяруць. Хаця чаго баяцца дырэктару магазіна? Скрадзе – зловяць і пасадзяць.

Такое грамадства – раз зрабіў памылку, значыць, будзеш памыляцца заўсёды. Ведаю, што некалькі чалавек пабылі на волі – і праз некалькі месяцаў зноў парушылі закон. Адзін хацеў выпіць, другі – паесці.

Не трэба клеймаваць людзей, якія вызваліся. Усе розныя. А прадузятасць да былых асуджаных больш за ўсё замінае адаптацыі.

Мала такіх, хто ідзе на злачынства проста таму, што так захацеў. З кім я знаёмы, усе вяртаюцца назад. Колькі там бедалаг сядзіць за палку кілбасы.


Фота avatariko.ru

“Пасля турмы сістэма прымушае вярнуцца на зону”.

## Міліцыя: хто хоча атрымаць працу – знойдзе

**Пра тое, як вызваленым дапамагаюць адаптавацца, расказаў начальнік крымінальна-выканальнай інспекцыі Маладзечанскага РАУС Юры Петрашэўскі.**

### Рэцэдываў стала менш

За два месяцы гэтага года з месцаў пазбаўлення свабоды ў Маладзечанскі раён вызваліліся 39 чалавек. За мінулы год – 293 чалавекі.

Летась 49% злачынстваў у раёне ўчынілі людзі, якія раней мелі судзімасць. У абсалютных лічбах за тры месяцы гэтага года зафіксавалі 108 злачынстваў рэцыдывістаў, летась за такі ж перыяд было на 33 злачынствы больш.

– Рэцэдываў стала менш. На гэта ўплывае шэраг фактараў – сацыяльна-эканамічныя прычыны, прафілактычная работа, якую мы праводзім. Выклікаем у інспекцыю, наведваем іх дома. Дапамагаем з працаўладкаваннем.

### Чым дапамагаюць

Міліцыя ставіць на ўлік людзей, што маюць судзімасць. Кантралюе і накіроўвае ва ўстановы, якія прапануюць розныя віды дапамогі. Гуманітарную, псіхалагічную і кансультацыйную дапамогу можна атрымаць у Цэнтры сацыяльнага забеспячэння насельніцтва.

Калі вызвалены страціў сацыяльна карысныя сувязі, ён можа скарыстацца пунктам часовага знаходжання. Камісія ў выканкаме разглядае заяву, калі ёсць прычыны, па якіх ён не мае жылля, то для яго адаптацыі даюць ложка-месца ў гэтым пункце. Паралельна такога чалавека падтрымліваюць у працаўладкаванні.

Працаўладкоўваючы вызваленага, улічваюць кваліфікацыю, спецыяльнасць, паказчыкі па здароўі. Цэнтр занятасці прапануе навучанне новай спецыяльнасці за кошт дзяржавы. Летась пунктам часовага знаходжання скарысталіся чатыры чалавекі. Гэта людзі, якія страцілі сацыяльна карысныя сувязі – напрыклад, згарэў дом. Чатырох чалавек з такой катэгорыі працаўладкавалі.

### Працаваць хочуць не ўсе

– Калі чалавек захоча працаўладкавацца, работу ён знойдзе. Але такое жаданне бывае не ва ўсіх. Калі вызвалены чалавек не ўладкаваўся, значыць, проста не хоча. Некаторыя шукаюць лёгкую нажыву, іншыя – неафіцыйную падпрацоўку, дзе няма рэжыму працы. Прычына рэцыдываў у асабістых якасцях, нежаданні выпраўляцца, нежаданні весці законапаслухмяны лад жыцця. Хаця мы іх пастаянна папярэджваем, запрашаем на прафілактычныя мерапрыемствы. Калі чалавек хоча адаптавацца ў грамадстве, у першую чаргу патрэбнае жаданне. Захоча – і сям'ю створыць, і працу знойдзе, калі трэба адвучыцца, і жыллё адшукае.

Нагляд – гэта для вызваленых мінус, каментуе начальнік міліцыі. А для грамадства – плюс:

– Калі пастаянна пад кантролем, менш спакусы ўчыніць нешта супрацьпраўнае.

Ад 9 да 15 красавіка Маладзечанскі райаддзел міліцыі будзе праводзіць спецыяльнае комплекснае мерапрыемства “Нагляд”. Падчас яго міліцыянеры будуць узмоцнена кантраляваць людзей, якія маюць судзімасць.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

Што можна зрабіць | Што раблю я



Карцінкі для конкурсу малюнкаў могуць быць жартаўлівыя. Як, напрыклад, гэтыя.

ШАХМАТЫ З ВІТАЛЕМ КАЧАТКОВЫМ, ПЕДАГОГАМ (ВЫПУСК 10)

## Вучым ход канём

**Конь – самая складаная для разумення дзіцяці фігура.**

У народзе кажуць, што конь ходзіць літарай "Г". Дыдактычна дзіцяці можна растлумачыць ход канём словамі з мульціка "Маша і мядзведзь": два разы прама скок, і ўбок скок.

Можна тлумачыць: адзін прама і адзін наўскасяк, або адзін наўскасяк і адзін прама.



Ёсць яшчэ шмат варыянтаў замацавання разумення ходу канём, але будзьце цярплівыя: некаторым дзецям для добрага запамінання і разумення ходу канём патрэбныя месяцы. Проста паўтарайце і гуляйце.

Пастаўце каня на любое шахматнае поле. Дайце дзіцяці, напрыклад, кардонныя кружочкі. Хай на тыя палі, куды можа пайсці конь, пакладзе кружкі.



Пастаўце белага каня на любое шахматнае поле. Размясціце некалькі чорных фігур так, каб адна была пад боем. Хай дзіця само знойдзе, каго конь можа збіць.





Рашыце шахматныя задачы. Каго конь можа збіць?

**Не саромейцеся, дасылайце малюнкі на конкурс!**

Віталь Качаткоў рыхтуе да друку кнігу-дапаможнік пра тое, як навучыць шахматам дашкольнікаў.

Дасылайце любыя дзіцячыя малюнкі на тэму шахмат у рэдакцыю на адрас: **222310, Вялікі Гасцінец, 143/518** з пазнакай "Конкурс малюнкаў пра шахматы". Ці сфатаграфуйце карцінку і дашліце на пошту region-news@rh.by. Маляваць можа хто заўгодна – і дзеці, і дарослыя. Дасылаць можна адначасова некалькі малюнкаў.

**Галоўная ўмова – малюнак павінны паказваць любое шахматнае правіла.**

Усіх удзельнікаў чакаюць памятныя падарункі. Віталь Качаткоў абярэ сярод дасланых тых, што размесціць пасля ў кніжцы.



**Віталь КАЧАТКОЎ, майстар спорту па шахматах Беларусі, Маладзечна.**

# Кубак Еўропы ў Ашмянах: перамогі, эмоцыі, рэкорды

АШМЯНЫ

**Ад 23 да 25 сакавіка Ашмяны знаходзіліся ў эпіцэнтры значнай падзеі: у фізкультурна-аздараўленчым комплексе райцэнтра праходзіў Кубак Еўропы па класічным паўэрліфтынгу і жыме штангі лежачы.**




Падчас спаборніцтваў.

– Ашмяны можна назваць сталіцай беларускага паўэрліфтынгу, – заўважыў **Міхаіл Станкевіч**, старшыня спартыўна-атлетычнага клуба "Аякс".

У Ашмяны прыехалі прадстаўнікі дзевяці краін Еўропы: Бельгіі, Польшчы, Літвы, Арменіі, Расіі, Іспаніі, Украіны, Грузіі і Беларусі. Цягам трох дзён на ашмянскі памост выходзілі 55 спартсменаў. З 27 членаў каманды Беларусі палову склалі выхаванцы ашмянскай школы паўэрліфтынгу.

У першы дзень спаборніцтваў на цырымоніі ўзнагароджання пераможцаў часцей за ўсё гучаў гімн Беларусі.

У вазе да 52 кілаграмаў сярод жанчын першае месца заняла **Надзея Цярэшка**. Золата прынесла беларускай камандзе яшчэ адна выхаванка Міхаіла Станкевіча – **Кацярына Мядзвецкая**, якая выступала ў вазе да 63 кілаграмаў. У **Ілоны Антоненкі** ў гэтай вазе – бронза. У скарбонку зборнай Беларусі ў вагавой катэгорыі да 57 кілаграмаў золата дадала прадстаўніца Мазыра **Наталля Прымачэнка**.

Парадавала гледачоў сваімі вынікамі і мужчынская палова беларускай зборнай. Гімн гучаў у гонар **Аляксандра Носава**, **Андрэя Грыцаля**, **Алега Ермака**, **Міхаіла Гасюка**. У вагавой катэгорыі да 83 кілаграмаў два беларускія спартсмены падняліся на п'едэстал гонару. Выхаванец ашмянскай школы паўэрліфтынгу **Сяргей Цыбульскі** стаў трэцім, **Павел Ясон** прынёс камандзе золата.

Увага заўзятараў была прыкаваная да выступлення спартсменаў у вагавой катэгорыі да 105 кілаграмаў. Менавіта ў гэтай вазе быў заяўлены кіраўнік Віцебскай вобласці **Мікалай Шарснёў**. Ён заваяваў бронзавы медаль, саступіўшы сапернікам з Грузіі і Арменіі.

– Сваім вынікам я не зусім застаўся задаволены, досведу замала ў міжнародных стартах, аднак я выканаў тое, на што настройваўся – 170 кг, – адзначыў старшыня Віцебскага аблвыканкама Мікалай Шарснёў.

На працягу шасці гадзін 28 спартсменаў спаборнічалі ў розных вагавых катэгорыях. Гэты дзень быў цалкам прысвечаны класічнаму паўэрліфтынгу – сілавому трохбор'ю, у якім чэмпіёна вызначалі па сумарнай максімальна ўзятай вазе ва ўсіх трох практыкаваннях: прысяданні са штангай на плячах, жыме штангі лежачы на гарызантальнай лаўцы і цязе штангі.

Першымі на памост выйшлі жанчыны. За перамогу змагаліся прадстаўніцы камандаў Беларусі і Літвы. У вагавой катэгорыі да 52 кілаграмаў першае месца заняла **Марыя Ярмак** з Мінска. Жыхарка Жупранаў **Надзея Цярэшка** святкавала перамогу сярод юніёрак – спартсменак да 18 гадоў.

Сярод спартсменак у вазе да 57 кілаграмаў срэбраным прызёрам стала **Крысціна Шлыковіч**, якая выступае пад сцягам "Аякса". На вышэйшую прыступку п'едэстала ўзышла спартсменка з Літвы **Мілда Бруверэ**. Сярод юніёрак у гэтай вагавой катэгорыі перамогу атрымала **Паліна Папялухіна** з Гомельшчыны.

У вагавой катэгорыі да 63 кілаграмаў поспех апынуўся на баку літовак. Бронзу ўзяла беларуская **Валерыя Жабінская**.

У катэгорыі да 72 кілаграмаў на п'едэстале красаваліся прадстаўніцы каманды Беларусі – **Вікторыя Бардаўская** (золата) і **Ганна Марачкіна** (бронза).

Затое ў катэгорыі звыш 84 кілаграмаў перамогу святкавала прадстаўніца нашай зборнай – **Кацярына Жарэла**.

У спаборніцтвах мужчын на памост выйшла сямёра беларусаў, трое літоўцаў і спартсмен з Арменіі.

У вагавой катэгорыі да 59 кілаграмаў перамогу ў трохбор'і святкаваў **Эгідыус Вальчукас** з Літвы, другое месца ў нашага земляка – **Аляксандра Шымановіча** з Жупранаў. Ён стаў пераможцам сярод юніёраў.

Яшчэ адно золата беларускай камандзе прынёс **Станіслаў Саноцкі** з Мінска, які выступаў у вазе да 66 кілаграмаў. Выхаванец "Аякса" **Альберт Станкевіч** заваяваў срэбра сярод юніёраў.

Завяршылі спаборніцтвы выступленні самых "цяжкіх" у гэты дзень спартсменаў – да 74 кілаграмаў. Першую прыступку пастамента ўпэўнена заняў **Аляксандр Вараб'ёў**, атлет, які выступае за клуб "Аякс".

– Трохі сумна, што спаборніцтвы завяршыліся, – прызнаўся галоўны суддзя Кубка Еўропы, першы намеснік старшыні Федэрацыі класічнага і экіпіравальнага паўэрліфтынгу **Дзяніс Дзянісаў** падчас урачыстага закрыцця еўрапейскіх стартаў у Ашмянах.

У трэці дзень спаборніцтваў разыгралі апошнія камплекты ўзнагарод. Іх атрымалі самыя моцныя з наймацнейшых паўэрліфцёраў, якія выступалі ў самых вялікіх вагавых катэгорыях.

Барацьбу за ўзнагароды ў гэты дзень вялі спартсмены з Літвы, Арменіі, Польшчы і Беларусі. У вагавой катэгорыі да 83 кілаграмаў на першую прыступку п'едэстала падняўся **Яўген Каўцэвіч**, які выступае за атлетычны клуб "Аякс". У суме трохбор'я спартсмен падняў 720 кілаграмаў.

Вагавая катэгорыя да 93 кілаграмаў прынесла медалі **Таўтвідасу Суткасу** з Літвы, **Максіму Целяпнёву** (спартыўна-атлетычны клуб "Аякс") і **Мікалаю Гаравому** з Рагачова. У вазе да 105 кілаграмаў бронзу заваяваў **Аркадзь Закаран** з Арменіі, срэбра – яго суайчыннік **Юры Караглянян**, залаты медаль з вагой 720 кілаграмаў у суме трохбор'я па праве дастаўся паляку **Давіду Занеўскаму**. У вазе да 120 кілаграмаў перамогу святкаваў спартсмен з Літвы **Амандас Паўлаўскас**. Літоўскі спартсмен усталяваў рэкорд свету ў жыме штангі лежачы, падняўшы вагу ў 253,5 кг. У суме літоўскі волат падняў 883,5 кг.

У камандным заліку месцы размеркаваліся наступным чынам: у жыме штангі лежачы сярод жанчын другое месца заняла каманда Літвы, першае – Беларусі. Сярод мужчын трэцюю пазіцыю займае Літва, другую – Арменія, першую – Беларусь.

У трохбор'і беларуская жаночая каманда стала другой, саступіўшы лідарства саперніцам з суседняй Літвы. Трэцяе месца сярод мужчынскіх камандаў у трохбор'і займае Арменія, другое – Літва, першае – Беларусь.

**Аліна САНЮК, osh.by.**
**Фота Святланы МУЦЯНСКАЙ.**



# Крыжаванка ад "Рэгіянальнай газеты"



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

3. Пра значную адлегласць.
4. Стваральнік літаратурнага або іншага мастацкага твора, навуковай працы, праекта.
7. Пісьмовы знак азбукі.
10. Дастатак, матэрыяльная забяспечанасць.
12. Драўляная ці металічная прылада з дзяржаннем і шырокім плоскім ніжнім канцом для капання.
13. Асоба каманднага саставу арміі і флоту, якая мае воінскае званне ад малодшага лейтэнанта да палкоўніка ўключна.
14. У гэтай жывёлы існуюць пахавальныя абрады, падобныя да чалавечых. Калі памірае нехта са статка, іншыя яго хаваюць у неглыбокую яму, засыпаюць галінкамі і зямлёй. Пасля ціха сядзяць каля гэтага месца. Вядомыя выпадкі, калі яны так хавалі людзей. Ці спрабавалі пахаваць, памылкова палічыўшы, што тыя памерлі, хаця яны спалі.
19. Каб зрабіць 1,5 кілаграма яго, спатрэбіцца 10 літраў малака.
21. Кароткае апавяданне пра смешнае або незвычайнае здарэнне.
22. Тое, што і палівачка.
24. На гербе гэтага беларускага горада залаты паляўнічы ражок з залатой фурнітурай.
26. Металічны шар для спартыўных практыкаванняў у штурханні.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

1. Мерапрыемствы па ахове правоў і інтарэсаў асоб, якія не могуць самі весці сваіх спраў.
2. Перастаць помніць.
5. Поўнасцю, зусім, без астатку.
6. Часовае карыстанне нерухомай маёмасцю на дагаворных асновах.
7. Вострая частка рэжучай ці сякучай прылады.
8. Прамежак, шчыліна паміж прылеглымі паверхнямі.
9. Мужчынская статуя, якая падтрымлівае перакрыцце будынка, порціка і звычайна прыстаўляецца да сцяны або калоны.
11. Аддзел, які рэгіструе факты нараджэння, смерці, шлюбу, разводу.
15. Пасудзіна, у якую дояць малако.
16. Гульня, пацеха.
17. Норма, у межах якой дазволена карыстацца, расходаваць.
18. Палоска паперы, стужка, якія кладуць у кнігу, каб адзначыць патрэбную старонку.
20. Адсутнасць выстралу пры спуску курка ў выніку няспраўнасці зброі або патрона.
21. Раменьчык з спражкай, які надзяваецца на шыю сабаку.
23. Тайнае паведамленне ўладам, начальству аб недазволеных, процізаконных дзеяннях.
25. Шматгадовая травяністая расліна з прадаўгаватымі лістамі і дробнымі белымі пахучымі кветкамі ў форме званочкаў.

## Адказы на крыжаванку з №13

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ.** 2. Лакмус. 3. Густ. 4. Планеты. 6. Адтуліна. 8. Гарбуз. 10. Лепель. 11. Граматыка. 13. Паездка. 15. Гарлачык. 16. Лаванда. 19. Лесвіца. 20. Група. 23. Прынцып.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ.** 1. Глыток. 4. Прысуд. 5. Танга. 7. Прыправа. 9. Акуліст. 12. Падзея. 14. Бульба. 15. Гуаш. 17. Лікёр. 18. Аковы. 19. Луза. 21. Журавіна. 22. Адмоўны. 24. Адпачынак.

## Мінскі абласны драматычны тэатр



### ГАРАСКОП 6-12 КРАСАВІКА



**АВЕН.** Каб падзеі гэтых дзён змаглі парадаваць, неабходна зразумець, што творыцца вакол вас, а пасля гэтага, не ўмешваючыся, даць таму, што адбываецца, вырашыцца само сабой. Сядзець ціха і не высоўвацца – лепшая пазіцыя на гэтых днях.



**ЦЯЛЕЦ.** Вы будзеце карыстацца папулярнасцю сярод сяброў, бо вашы парады акажуцца асабліва каштоўнымі і іх захоча атрымаць літаральна кожны. Але не ўдавайцеся ў крайнасці і не спрабуйце перарабіць усе справы або дапамагчы ўсім – прысвяціце час і сабе.



**БЛІЗНЯТЫ.** Вам трэба будзе праходзіць рознага роду выпрабаванні: гэта могуць быць і экзамены, і праверка вашых ведаў ці спроба ў чымсьці выкрыць вас. У любым выпадку гэта важна. Таму паспрабуйце не рабіць ніякіх неабдуманых учынкаў.



**РАК.** Вас чакаюць сур'ёзныя змены, уплываць на якія вы не зможаце па ўласнай волі. Можа, так яно і лепей.



**ЛЕЎ.** На гэтых днях вам трэба будзе адпрацаваць частку сваёй кармы. Як ставіцца да гэтага працэсу – вырашаць вам, але каб не пагоршыць сваё становішча, паспрабуйце ні ўва што не ўмешвацца і не прадпрымаць актыўных дзеянняў.



**ДЗЕВА.** Усё будзе літаральна кіпець у руках. Час добры для распачынання новых спраў, для пабудовы планаў і іх рэалізацыі. Лёс спрыяе вам, і ўсё складваецца ўдала пры належнай упартасці.



**ШАЛІ.** Вы атрымаеце магутны зарад энергіі, якая дазволіць вам вырашыць практычна любыя сітуацыі. Інтуіцыя, якая абвострыцца, дазволіць зразумець, хто на самой справе ваш сябар, а хто не. Дні падыходзяць для таго, каб расставіць усе кропкі над "і" ў вашых узаемаадносінах з сябрамі і блізкімі.

**СКАРПІЁН.** Вы зможаце, нарэшце, пераканацца ў тым, што вас сапраўды акружаюць верныя сябры. Дні будуць звязаныя з радасцю ў коле сяброў, сумеснае чаяванне або вечарынка. Далей падзеі не будуць патрабаваць вашага ўмяшання.

**СТРАЛЕЦ.** У асабістым жыцці наступае прыемны перыяд. Вас будзе радаваць літаральна ўсё ў блізкім вам чалавеку, з'явяцца думкі аб развіцці вашых адносін далей, аб пераходзе на наступную прыступку.

**КАЗЯРОГ.** "Праз церні да зорак" – так і ў вас. Усе дні вы будзеце знаходзіцца ў барацьбе з самім сабой, разрываючыся паміж жаданнем адпачыць і патрэбай рухацца наперад. У вашым жыцці наступае нейкі пераломны момант, калі вы вольныя яго змяніць так, як захочаце, з чымсьці расстацца і штосьці атрымаць узамен.

**ВАДАЛЕЙ.** Вы імкняцеся ўплываць на свет, навязваць навакольным сваю волю, хоць рабіць гэтага не варта, асабліва цяпер. Усе дні прысвяціце сузіранню таго, што адбываецца вакол. А цяпер усё само ідзе да вас, таму важна нічога і нікога не спудзіць залішняй напорыстасцю.

**РЫБЫ.** Прысвяціце дні аналізу самога сябе або наяўных адносін. Менавіта цяпер можна вырашыць даўнія рознагалоссі і дасягнуць гармоніі. Калі вы адзінокія, то высокая верагоднасць пазнаёміцца з прыемным вам чалавекам.

Марыя УРБАНОВІЧ.

### СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 7 | | 9 | | 4 | | 2 | 1 |
| | | 9 | 5 | 8 | | | | 6 |
| | 6 | | 2 | 3 | 7 | 4 | | 8 |
| 9 | 1 | | | 2 | | 7 | | 4 |
| 3 | | 6 | 1 | 7 | 8 | 9 | | |
| 2 | 8 | | | 5 | | 1 | 6 | 3 |
| 1 | | 8 | 7 | 4 | | 6 | | 5 |
| 6 | 3 | 4 | | 9 | 5 | 2 | 1 | |
| 7 | | 2 | | 1 | 3 | | | 9 |

**Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.**

Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

## НАДВОР'Е

### 7 красавіка, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +9 / +11 | | +2 / +8 | | +1 / +11 | | +5 / +16 | |
| | 740 | → 7 | 752 | → 7 | 749 | ↑ 7 | 745 | ↗ 5 |
| Вільня | +8 / +9 | | +1 / +10 | | +2 / +14 | | +7 / +18 | |
| | 747 | → 9 | 759 | → 2 | 753 | ↑ 7 | 750 | ↗ 4 |

Тэмпература паветра; Воблачнасць, ападкі; Усход, захад па Маладзечне; Ціск (мм рт. сл.); Хуткасць ветру м/с

Усход 6.30
Захад 19.59
Даўжыня дня 13.29

Усход 2.27
Захад 10.34
Квадра 3

| | Тэмпература | Ціск | Вецер |
|---|---|---|---|
| Віцебск | 2 / +8 | 759 | ↘ 6 |
| Мінск | +2 / +8 | 752 | → 7 |
| Гродна | +1 / +9 | 762 | ← 4 |
| Магілёў | +2 / +9 | 758 | ↓ 5 |
| Гомель | +3 / +8 | 760 | ↑ 5 |
| Брэст | +8 / +14 | 746 | ↑ 8 |

## ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я

**ВІЛЕЙКА**

Мінімальная тэмпература -8 °C у 1963 годзе
Максімальная тэмпература +22,4 °C у 1961 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 14,2 мм у 1962 годзе
Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень

**Ці сталі электронныя дзённікі ў школах карысным новаўвядзеннем? Ці заменяць яны папяровыя, ці спросцяць камунікацыю бацькоў з педагогамі і ці палепшаць адукацыйныя працэс?**



## ПРОСТА АНЕКДОТ

***

Гаспадар:
– А давайце мы будзем піць чай.
Госці:
– Не, давайце мы будзем піць тое, што пілі.

***

Не люблю ўсё грамадскае. Асабліва прыбіральню, харчаванне і думку.

***

Вяселле – гэта заўсёды вельмі весела, калі яно не тваё.

***

Калі ў руках у жанчыны качалка, яшчэ не факт, што будуць піражкі.

***

"Усміхаюся непрыгожым хлопцам у аўтобусе, каб хоць нейк павысіць іх самаацэнку". Зінаіда Мікалаеўна, 62 гады, пенсіянерка.

***

– Тут баліць?
– Так.
– А тут?
– Так.
– І тут?
– Доктра, можа ўжо хопіць у мяне відэльцам тыкаць?

***

Дранікі – гэта страва зміраення і пакаяння. Толькі адкінуўшы ўсё людское, можна дзёрці бульбу на тарцы сорак хвілін.

***

З плану "легчы на падлогу і пакачаць прэс" атрымалася толькі легчы на падлогу. Але нічога. Маленькія перамогі – гэта таксама перамогі.

***

У мяне самы рамантычны мужчына ў свеце! Ён заплакаў, калі на капоце яго машыны я надрапала сэрца.

***

Цікава, калі адначасова прыняць слабільнае, снатворнае і віягру, на чыім баку акажацца перамога?

## З "Рэгіянальнай газетай" ніякіх неспадзяванак. Газета – толькі для "прасунутых" мам

**Падпісацца можна:**

✓ праз сайт "Белпошты".

Зарэгіструйцеся на сайце. Заходзім у акно інтэрнэт-плацяжоў, выбіраем "афармленне падпіскі на друкаваныя сродкі масавай інфармацыі", выбіраем "Алфавітны". Выбіраем тып падпіскі (індывідуальная ці ведамасная).

Ціснем літару "Р", справа гартаем старонкі, пазначаныя сінім колерам. Пад індэксам 632122 – "Рэгіянальная газета".

✓ на пошце,
✓ праз паштальёна
✓ праз плацежна-даведачны тэрмінал




Цана **індывідуальнай падпіскі** на месяц – 3 рублі 50 капеек.

Цана **ведамаснай падпіскі** на месяц – 10 рублёў.

Вы можаце скарыстацца **скідкай за дастаўку**, калі самі будзеце забіраць газету або ў абаненцкай скрыні, або атрымліваць да запатрабавання.

*ПАДПІСНЫ ІНДЭКС: 63212 (індывідуальная), 632122 (ведамасная падпіска).*

## ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

# Як вы лічыце, колькі дзяцей павінна быць у сям'і?



**Валерыя Кізік, навучэнка:**
– Двое. Хлопчык і дзяўчынка. Каб бацькі папрактыкаваліся выхоўваць разнаполых дзяцей.



**Юлія Боб, судовы выканаўца:**
– Не менш за двое. У мяне цяпер хлопчык і дзяўчынка. Каб было сваё жыллё, магчыма, і пра трэцяга падумалі б.



**Павел Пілавец, мастак-дызайнер камп'ютарнай графікі:**
– Ад двух і больш. Адно дзіця часта вырастае эгаістам.



**Ева Чычэліс, вучаніца:**
– Думаю, двое дзяцей. Гэта нямнога і нямала.



**Наталля Капуцкая, гаспадыня арт-прасторы:**
– Шмат. Не менш, чым трое, дакладна. У мяне якраз трое.



**Яўген Янчуковіч, юрыст:**
– Пакуль я маральна гатовы толькі да аднаго дзіцяці. Маладой сям'і трэба пачынаць з аднаго. А там жыццё пакажа.



**Александрына Паўловіч, студэнтка:**
– Не менш за двое. Тады ў дзяцей развіваецца ўзаемадапамога. Ды і маме крыху лягчэй, калі старэйшае дзіця дапамагае. Нас у сям'і трое.

**Падрыхтавала Аксана ЯРАШОНАК.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 5000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№14 (1197) 6.04.2018. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія ЛП №02330 /190 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 357. Падпісана ў друк у 9.00 5.04.2018.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**


Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.** E-mail: reklama@rh.by, regionnews@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.